НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 34 (823) 11 верасня 2013

www.nn.by

# Наша Ніва

П Е Р Ш А Я   Б Е Л А Р У С К А Я   Г А З Е Т А

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

## Сапраўды незвычайны беларус!



Як турма вярнула расійскага бізнэсоўца Паўла Бераговіча да беларускіх каранёў. Старонка 4.

## Гісторыя жудаснага забойства і бясконцай любові



Пад гукі чорнага металу. Старонка 6.

# $100 — і дамоў



Кіраўнік дзяржавы даручыў **збіраць** з людзей **па $100** за выезд за мяжу на закупы. **Старонка 2.**



Тэатр

## Чаму Вітаўт не стаў каралём?

Нацыянальны балет, за які сорамна.
**Старонка 11.**



## Дык падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# 100 баксаў — і дамоў

**Кіраўнік дзяржавы прапанаваў збіраць з насельніцтва па $100 за выезд за мяжу на закупы.**



Плынь беларускіх пакупнікоў цячэ ў Польшчу і Літву няспынна.

Аляксандр Лукашэнка даручыў увесці пошліну для беларусаў, якія выязджаюць за мяжу на закупы: «Нашы людзі да $3 мільярдаў вывозяць за мяжу ў Еўрасаюз і ўвозяць барахло, якое мы таксама выпускаем. Дык вось, я даўно даручыў: аж да таго, што з'язджаеш за межы краіны па гэтае барахло —заплаці пошліну». «Гэта будзе так: мы цябе на мяжы абслугоўваем — плаці $100 з носа і едзь за мяжу», — растлумачыў ён.

Эксперты сышліся ў меркаванні: гэтая задума не толькі супярэчыць унутранаму заканадаўству краіны і міжнародным дамовам, але яшчэ і тэхнічна невыканальная.

Зрэшты, беларусам не прывыкаць. Розных кампаній і загадаў было шмат. Многія з іх, калі не большасць, нічым не скончаліся. «Наша Ніва» выбрала з іх 5 самых запамінальных і прасачыла за іх выкананнем.

### 1. Нельга звальняцца

У снежні 2012 года Лукашэнка вырашыў, што дзеля мадэрнізацыі дрэваапрацоўчай прамысловасці можна ахвяраваць асабістай свабодай, — і насуперак Канстытуцыі забараніў супрацоўнікам некаторых прадпрыемстваў звальняцца з працы да канца мадэрнізацыі, а за парушэнне прыгразіў прымусовымі працамі.

Дакумент адразу ж выклікаў хвалю абурэння і быў названы «вяртаннем прыгоннага права». Міжнародная арганізацыя працы заявіла пра гатоўнасць разгледзець скаргу на дэкрэт, калі такая паступіць.

Пакуль ніхто не паскардзіўся, аднак адцёк кадраў з дрэваапрацоўкі дэкрэт усё ж не прадухіліў. На прадпрыемстве ў Мастах у першым квартале першага паўгоддзя колькасць работнікаў скарацілася на 390 чалавек, а ў Віцебску — на 320 чалавек.

### 2. Платная медыцына для гастарбайтараў

У 2011 Лукашэнка пагражаў будаўнікам, якія з'язджаюць на «смачнейшыя» заробкі ў Расію, поўнай аплатай камунальных і медыцынскіх паслуг.

«Ты сацыяльную нагрузку не нясеш, дзяржаве не дапамагаеш. Дык давай за камуналку і медзабеспячэнне заплаці. Тады ён тысячу разоў падумае: ехаць ці не ехаць. А так, зламаў нагу, галаву яму там адкруцілі, а мы тут яго бясплатна лечым. Камунальныя паслугі аплочвае на 22-25%, а не 100%. Зарабіў грошы — плаці», — рэзюмаваў Лукашэнка.

Аднак на радасць гастарбайтарам тая прапанова так і засталася прапановай.

### 3. Мармуровае мяса

«Мармуроваму мясу быць», — вырашыў Лукашэнка і даручыў віцэ-прэм'еру Міхаілу Русаму наладзіць вытворчасць і пераапрацоўку элітнага гатунка мяса. Кіраўнік дзяржавы запэўніў, што каштаваць вытворчасць будзе танна, а ў Расіі на такую ялавічыну гіганцкі попыт. Дый беларусы далікатэс мусяць ацаніць: «Трэба сваіх людзей прывучаць да нармальнага мяса і лішкі прадаваць у Маскву».

Мармуровай ялавічыны на сталах беларусаў як было небагата, так і засталося. Ды і Беларусь не стала канкурэнтам ЗША, Аўстраліі, Японіі і Аргенціне па вытворчасці элітнага мяса.

### 4. Слуцкі пояс — у кожны дом

Клопат пра культурную спадчыну выліўся ў неабходнасць прынесці слуцкі пояс у кожны дом, пра што Лукашэнка заявіў падчас паслання беларускаму народу ў маі 2012. Тады ж ён прызнаўся, што асабіста даручыў адрадзіць «адзін з галоўных культурных сімвалаў Беларусі».

Заяву Лукашэнкі ўспрынялі як жарт. Не да жартаў было толькі «Белмастацпромыслам» — дызайнераў для слуцкіх паясоў шукалі нават праз рэкламу ў метро.

### 5. Перасесці на веласіпед

Сёлета ў студзені Лукашэнка запэўніў, што ў год беражлівасці на ўласным прыкладзе можа паказаць народу, як трэба ашча-джаць, і перасесці на веласіпед. Аднак пакуль ён аддае перавагу картэжу, дзеля якога сталічны праспект Пераможцаў перакрываюць двойчы на дзень, персанальнаму верталёту і самалёту. Але і ровар у Лукашэнкі ёсць: на днях ён расказаў пра свайго двухкілаграмовага «італьянца», які, паводле некаторых ацэнак, каштуе не адну тысячу еўра.

**Яўген Крэйда**

**Апытанка**

## Каму з грамадскіх лідараў вы давяраеце?

Віцебская актывістка, арганізатарка кампаніі «Наш дом» Вольга Карач нядаўна заявіла пра сваю гатоўнасць кінуць выклік Аляксандру Лукашэнку на прэзідэнцкіх выбарах 2015. У кулуарах гавораць пра аналагічныя амбіцыі — або патэнцыял — у іншых грамадскіх дзеячоў.

Існуе і іншая канцэпцыя: згуртаванне грамадскіх сілаў перад 2015 і вылучэнне адзінага лідара — нават калі ён знявольны, як былі знявольнымі і Мандэла, і Аунг Сан Су Чжы, і Гавэл. Але пры гэтым магчымы і дружны байкот.

У спісе сабраныя людзі, якія самі гаварылі пра сябе або пра якіх гаварылі як пра здольных стаць на чале не асобнай сілы, а менавіта кааліцыі.

| | | |
|---|---|---|
| Мікалай Статкевіч | 2241 | 36% |
| Павел Севярынец | 1390 | 22% |
| Алесь Бяляцкі | 1342 | 22% |
| Анатоль Лябедзька | 337 | 5% |
| Уладзімір Колас | 286 | 5% |
| Вольга Карач | 262 | 4% |
| Андрэй Дзмітрыеў | 134 | 2% |
| Аляксандр Ярашук | 115 | 2% |
| Улад Вялічка | 78 | 1% |

Прагаласавала 6100 чалавек, дапускалася некалькі адказаў

**Сцісла**

**«Пінскую шляхту» ўзнагародзілі дзяржпрэміяй**

Аляксандр Лукашэнка прысудзіў тры прэміі ў сферы навукі і тэхнікі і тры прэміі ў сферы літаратуры, мастацтва і архітэктуры за 2012 год. Сярод лаўрэатаў — аўтары даследавання неарганічных злучэнняў, распрацоўшчыкі галаграфічнай сістэмы абароны дакументаў, стваральнікі колавых шасі. Узнагароджаныя гуманітарыі — артыстка опернага тэатра Ніна Шарубіна, стваральнікі спектакля «Пінская шляхта», а таксама архітэктары «Мінск-Арэны».

**Жыхароў Гомельшчыны штрафуюць за трыманне свіней**

22 жыхары Рэчыцкага раёна аштрафаваныя за парушэнне забароны трымаць свіней на асабістых падворках, якія трапілі ў так званую буферную зону. Мінімальны штраф склаў 100 тысяч рублёў, максімальны — 1,5 мільёна.

**Даляр б'е рэкорды**

Афіцыйны курс амерыканскай валюты складае 9050 рублёў — гэта чарговы максімум. Аднак у абменніках даляры можна набыць мінімум за 9100 рублёў.

Еўра таксама блізка ад рэкорду — 11 990. У абменніках еўрапейскую валюту можна набыць не танней за 12050 рублёў.

**У Кітаі за чуткі ў Інтэрнэце будуць караць турмой**

Паводле новага закона, чалавека можна будзе прыцягнуць да адказнасці за паклёп, калі агучаная ім інфармацыя атрымлівае шырокі распаўсюд у сецыве — будзе перадрукаваная больш за 500 разоў. У такім выпадку могуць пазбавіць волі на тэрмін аж да трох гадоў.

**ЯМ**

**Рэкамендуем**

## «Хатынская аповесць» у шорт-лісце найлепшых раманаў свету

Амерыканскі гісторык Цімаці Снайдэр апублікаваў рэцэнзію на англамоўнае выданне кнігі Алеся Адамовіча.

**Чытайце на nn.by.**

**Самае чытанае на nn.by за 4-10 верасня**

1. Лукашэнка: Трэба ўвесці пошліну $100 для тых, хто едзе за мяжу на закупы
2. Гебельс-ТВ у дзеянні
3. Чые сцягі развесілі на праспекце?
4. Пуцін адмовіўся фатаграфавацца побач з Абамам
5. Зміцер Дашкевіч сыходзіць з «Маладога фронту»
6. Што зробяць з Ружанскім палацам пасля рэстаўрацыі?
7. У настаўніцы рускай мовы і палітрука не можа быць такой дачкі: гутарка з Настай Дашкевіч
8. «Скарына напісаў Біблію»
9. Пяць фактаў пра Аркадзія Дарковіча
10. Кароткая гісторыя беларускамоўнага пахавання

# Чыноўнікі супраціўляюцца русіфікацыі

Тапанімічная камісія пры Савеце міністраў вырашыла захаваць існуючы парадак прысваення найменняў геаграфічных аб'ектаў у краіне: назвы даваць на беларускай мове, а затым транслітараваць на расійскую.

За русіфікацыю назваў выступаў намеснік старшыні Мінгарвыканкама Ігар Карпенка (ён жа ўзначальвае Камуністычную партыю). Яму мазолілі вока назвы ў метро на беларускай мове, якія нібыта будуць незразумелыя турыстам. Ён патрабаваў, каб у назвах выкарыстоўваліся і рускія словы.

Аднак навукоўцы здолелі адстаяць свой падыход, ухвалены ААН. Прамы пераклад тапонімаў не практыкуецца ў ніводнай краіне свету, тлумачаць яны.

Прычым змены ў закон былі адхіленыя на пасяджэнні камісіі адзінагалосна.

«Мы ж не станем перакладаць прозвішчы грамадзян Беларусі! Бурака на Свеклу, Трусава на Кроликова. А з назвамі гарадоў, вуліц — тое ж самае», — перакананы вучоны сакратар Інстытута мовы і літаратуры Нацыянальнай акадэміі навук Ігар Капылоў.

Прыняўшы прапанову Мінгарвыканкама, «нам прыйдзецца паламаць усё, што мы заваявалі», — заявіў на пасяджэнні старшыня камісіі Георгій Кузняцоў. Апроч таго, ён узначальвае Дзяржаўны камітэт па маёмасці. На яго думку, праблема неразумення турыстамі беларускіх тапонімаў створана штучна. «Выдатна, што мы прымаем у сябе Чэмпіянат свету, — сказаў Кузняцоў. — Аднак турысты былі і да яго, будуць і пасля. Сёння шмат расійскіх гасцей, заўтра будзе шмат кітайскіх. І што, мы будзем для кожнай нацыі перакладаць нашы назвы? Калі мы хочам захаваць тое, што засталося нам ад продкаў, то мы павінны даваць назвы на беларускай мове».

Ягор Марціновіч



Ігар Карпенка.



Георгій Кузняцоў.

## Каб атрымаць пенсію, папрацуй хаця б 10 гадоў

Змяняюцца правілы налічэння дапамогі старым.

Аляксандр Лукашэнка сваім указам унёс змены ў схему налічання працоўных пенсій. З 1 студзеня 2014 для таго, каб атрымліваць дзяржаўную дапамогу, трэба сплочваць абавязковыя ўнёскі ў пенсійны фонд не менш за 10 гадоў. Раней было дастаткова 5 гадоў легальнай працы. Для тых, хто працаваў пераважна ў савецкія часы, зроблена выключэнне. Ім грошы налічаць па старых правілах.

Сярэдняя пенсія ў Беларусі складае 2,2 мільёна рублёў. А тым, хто плаціў унёскі менш за вызначаны тэрмін (раней 5 гадоў, цяпер — 10), налічваюць усяго па 510 тысяч рублёў.

«Мера прымаецца ў мэтах рацыяналізацыі выдаткаў сродкаў дзяржаўнага сацыяльнага страхавання», — тлумачыцца ва ўказе. Беларусаў заахвочваюць працаваць даўжэй, бо доля пенсіянераў у насельніцтве краіны ўвесь час расце.

На наспелы, але непапулярны палітычны крок — павышэнне пенсійнага ўзросту — дзяржава ісці не спяшаецца.

ЯМ

# Навальны здзівіў Расію

Ён паспяхова кінуў выклік Сабяніну на выбарах у Маскве.



Твар расійскай апазіцыі можа апынуцца ў калоніі на пяць гадоў.

Даўно ніводныя выбары ў Расіі не выклікалі такой інтрыгі, як выбары мэра Масквы. Упершыню за доўгі час апазіцыя вылучыла перспектыўнага кандыдата. Гэта Аляксей Навальны — антыкарупцыйны блогер і лідар руху за сумленныя выбары, чалавек, які прыдумаў лэйбл «Адзіная Расія» — партыя жулікаў і злодзеяў».

Ён кінуў выклік цяперашняму мэру Сяргею Сабяніну, які пайшоў на выбары як самавылучэнец, а не як кандыдат ад «Адзінай Расіі». Навальны стартаваў у выбарчай кампаніі з рэйтынгу 3% і здолеў набраць 28% галасоў.

Адзіны кандыдат ад апазіцыі здольны зрабіць прарыў нават у аўтарытарным грамадстве. Поспеху ўдалося дасягнуць дзякуючы агрэсіўнай і настойлівай мабілізацыі сваіх прыхільнікаў, а таксама нізкай агульнай яўцы на выбарах. Лідар грамадзянскай апазіцыі ніколі не збіраў так шмат у пуцінскую эпоху.

Афіцыйныя падлікі далі Сабяніну 51% — гэта перамога, але правал. Падчас выбараў Навальны высунуў канкурэнту карупцыйныя абвінавачванні і фактычна патапіў яго.

Копіі пратаколаў, здабытых назіральнікамі на двух трацінах участкаў, сведчылі, што Сабянін набраў 49,5%. А гэта ўжо магчымасць для непрадказальнага другога тура.

Навальны вывеў сваіх прыхільнікаў на вуліцы і чакае перамоваў з уладамі. Аднак праз некалькі дзён дзяржава атрымае магчымасць асадзіць яго. У Кіраўскім судзе будзе вырашана, ці адправіць палітыка на пяць гадоў у калонію па сумнеўнай крымінальнай справе.

Вось толькі статус лідара апазіцыі ў Навальнага ўжо не адняць.

Мікола Бугай

## Саннікаў паступіў на праграму Каліноўскага

Экс-кандыдату ў прэзідэнты будуць плаціць стыпендыю — $370.

Палітык Андрэй Саннікаў стаў стыпендыятам польскай навучальнай праграмы імя Кастуся Каліноўскага. «Саннікаў, Вячаслаў Сіўчык, Дар'я Корсак, жонка Уладзіміра Кобеца — усе яны пайшлі на праграму паслядыпломнай адукацыі. Гэта можа быць творчая праца на абраную стыпендыятам тэму. Стыпендыі ў іх такая ж, як і ў студэнтаў-каліноўцаў, а розлічаная праграма навучання на год», — расказала куратарка праграмы Іна Кулей, жонка Аляксандра Мілінкевіча. Па яе словах, стыпендыяльная праграма цяпер ахоплівае не толькі бакалаўрыят і магістратуру, але і дактарантуру, і паслядыпломную адукацыю.

Праграма Каліноўскага была створаная пад патранатам прэм'ер-міністра Польшчы ў сакавіку 2006, каб дапамагчы студэнтам, выключаным з беларускіх навучальных установаў па палітычных прычынах.

З цягам часу праграма пашырылася таксама на тых, хто не мае магчымасці навучацца ў Беларусі праз свае палітычныя погляды. Стыпендыяй скарысталіся палітыкі Алесь Міхалевіч, Зміцер Бандарэнка, Зміцер Барадка, прафесар-сацыёлаг Андрэй Вардамацкі...

Сёлета дакументы падалі Вячаслаў Дыянаў і Сяргей Каваленка. Прычым, першы спрабуе аднавіць навучанне — у 2011 Дыянава адлічылі з польскага ўніверсітэта за прагулы.

Паводле: Алесь Пілецкі, «Еўрарадыё»

Каментар

# Поспех Навальнага — у інтарэсах Беларусі

Сярэдзіна нулявых гадоў была аптымістычным часам: украінская Аранжавая рэвалюцыя спарадзіла ўсплёск надзей у суседніх краінах — у тым ліку ў Расеі. Усплёск той захапіў і аўтара гэтых радкоў, і, відаць, дзякуючы гэтаму вы іх цяпер і чытаеце.

Прыкладна ў той час мне давялося пазнаёміцца таксама і з Аляксеем Навальным — актывістам партыі «Яблык», чалавекам ужо тады досыць вядомым у вузкай маскоўскай тусоўцы палітактывістаў розных кірункаў. Прайшло восем гадоў — і той дзелавы хлопец з вялікай гікаўскай мабілай у пацёртым скураным футляры, які праводзіў трэнінгі для назіральнікаў на выбарах у офісе «Яблыка» і вёў, здаецца, нейкую малацікавую перадачку пра гарадскія праблемы на радыё «Эхо Москвы», ператварыўся ў галоўную надзею расейскай дэмакратычнай апазіцыі. Жыццё — цікавая рэч.

Для расейцаў Навальны цяпер апазіцыйны палітык нумар адзін, і гэта добра.

Яго перамога на выбарах маскоўскага гарадскога галавы была пакуль немагчымай. Але пытанне тычылася вяртання канкурэнтнасці ў расейскую палітыку.

Будзьма рэалістамі: Беларусь і Расея — гэта розныя краіны з рознымі інтарэсамі. З любой расейскай уладай давядзецца весці доўгія і няпростыя перамовы.

Але ліберальная, празаходняя і цывілізаваная Расея стратэгічна выгаднейшая для Беларусі, чым Расея агрэсіўная, аўтарытарная і азіёнская. Варта спадзявацца, што Аляксей Навальны дапаможа ёй рухацца ў слушным кірунку.

Алесь Чайчыц, Масква

Сцісла

### Міністра архітэктуры саслалі ў Казахстан

Анатоля Нічкасава апошнім часам Лукашэнка часта крытыкаваў, нават вынес яму вымову. Цяпер чыноўнік стане паслом у Казахстане. З 1994 ён працаваў намеснікам міністэрства архітэктуры і будаўніцтва, а з 2010 стаў міністрам.

### Помнік Каліноўскаму лішні

Арганізатары кампаніі за ўстаноўку помніка Кастусю Каліноўскаму ў сталіцы атрымалі адказ ад Мінгарвыканкама. Чыноўнікі лічаць устаноўку «заўчаснай». Маўляў, не так даўно была вернута памятная дошка Каліноўскаму на адзін з дамоў — гэтага хопіць.

ЯМ

# Як турма вярнула расійскага бізнэсоўца да беларускіх каранёў

Сапраўды, незвычайны беларус! Расійскі бізнэсовец **Павел Бераговіч** фінансуе прэмію для маладых беларускіх літаратараў, набыў сядзібу ў Ваўкавыскім раёне і марыць стварыць там музей шляхты.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**— Павел, раскажыце, як вы адкрылі Беларусь як краіну і Беларусь у сабе?**

— Мая бабуля паходзіць з Віцебшчыны. Яна была ўсё жыццё непісьменная. У вёсцы каля Чашнікаў яна сустрэлася са сваім будучым мужам — маім дзедам, які ў 1928 годзе служыў там. Дзед раз-пораз купляў самагонку ў маці маёй бабулі — сваёй будучай цешчы.

У вайну дзеда з бабай эвакуіравалі на Урал. Там і нарадзілася мая маці.

Бабуля мяне гадавала, бацькі на працы былі ўвесь час. Яна па-беларуску не гаварыла, але да канца жыцця ў яе быў «акцэнт», як у «правадыра» цяпер. *(Усміхаецца.)* Ну, і некаторыя слоўцы трапляліся. Таму я, хлопец, народжаны ў Свярдлоўску, ведаў, што Беларусь ёсць.

Калі мы хадзілі ў школе на першамайскія дэманстрацыі, я заўсёды браў сцяг Беларусі. Хоць у Беларусі не быў ні разу.

Я скончыў вайсковую вучэльню, інстытут, стаў займацца бізнэсам. Часам у расійскіх газетах мне трапляліся навіны пра Беларусь. Памятаю, як чытаў артыкул пра Зянона Пазняка і «страшных нацыяналістаў». А ў нас у вучэльні быў камандзір, прозвішча якога было Пазняк, — здаровы, магутны дзядзька. Вось такім волатам мне ўяўляўся і Зянон. *(Усміхаецца.)*

### Забіралі бізнэс

А потым здарылася такая гісторыя з нашым бізнэсам. Мы трапілі пад прэсінг з боку магутнай металургічнай групы, якая мае велізарны адміністратыўны рэсурс на Урале. Праз год нашага змагання з імі мяне і майго сябра арыштавалі. Астатнія нашыя партнёры здолелі ўцякчы на Украіну.

Ад нас патрабавалі, каб мы адмовіліся ад маёмасных правоў на карысць гэтай групы, а нас потым за гэта вызваляць. Мы не згаджаліся — таму працягвалі сядзець.

Гэтая гісторыя зацягнулася на доўгі час. Пяць гадоў мы правялі ў СІЗА.

У камеры ў мяне быў тэлефон, і я мог карыстацца інтэрнэтам. Вядома, што гэта было нелегальна. У нас і «шмоны» праводзілі, а мы хавалі.

І вось цягам нэт-серфінгу я выйшаў на беларускія рэсурсы. Стала цікава, і я пачаў чытаць. Спачатку па-руску, а потым і на мове першайшоў.

Аднойчы прачытаў на «Нашай Ніве», што выйшла кніга Сяргея Шапрана «Дажыць да зялёнай травы» — ліставанне Быкава з Барадуліным. Я звярнуўся да адваката і папрасіў набыць мне яе. Гэта была першая беларуская кніга, якая да мяне трапіла. Я пачаў чытаць і больш за палову не разумеў. *(Усміхаецца.)* Прыйшлося замаўляць слоўнік. Ён мне не вельмі дапамагаў, таму што ў Рыгора Іванавіча столькі наватвораў!

### Уразіў твар

Памятаю, мяне ўразілі фотаздымкі Быкава з гэтай кнігі, на якіх ён быў вельмі падобны да маёй бабулі.

Так усё і пачалося. Я пачаў замаўляць іншыя кнігі. Памятаю, сядзеў, чакаў спаткання з адвакатам. Узяў з сабой пачытаць часопіс Arche.

Убачылі мае таварышы па няшчасці: «А на каком это языке?». Кажу, па-беларуску. Прыемна было адчуваць сваю непадобнасць да іншых. І мова гэтаму спрыяе.

Пасля напісаў ліст Алегу Трусаву, папрасіў, каб мяне прынялі ў Таварыства беларускай мовы. Так завочна я атрымаў пасведчанне. І пачаў думаць, што можна рабіць у маіх умовах для Беларусі.

Як было б файна выдаць цікавую дзіцячую кнігу па гісторыі, падумалася мне. Я напісаў вялікі ліст Уладзіміру Арлову з гэтай прапановай. Неўзабаве гэтая новая кніга выйдзе.

### Турма мяне змяніла

...Зразумела, я не ганаруся тым, што апынуўся ў турме. Але ў нашы часы лёгка трапіць туды, займаючыся актыўнай дзейнасцю — прадпрымальніцкай, грамадскай, палітычнай. Колькі годных людзей цяпер за кратамі. І ўсе, згодна з прысудамі, — злачынцы: змоўшчыкі, хуліганы, махляры... Так і з намі адбылося. Але цяпер, дзякуй Богу, усе гэтыя справы скончыліся,і нават «судзімасць» мая знятая.

Канечне, тыя гады былі жорсткім выпрабаваннем для маёй сям'і. Я вельмі доўга не бачыў жонкі, не абдымаў сына, бацькоў. А што адчувалі яны — нават не ўяўляю. Мяркую, ім было нашмат цяжэй, чым мне. За гэта я ніколі не аддзячу.

Цягам зняволення ўва мне абудзілася беларускасць, і яна трапіла на добрую глебу. Я ўжо не мог сябе атаясамляць з той версіяй расейскасці, якая прапаноўваецца сёння расейскай дзяржавай — з яе імперскасцю, гвалтам, нахабнай хлуснёй. Мне трэба было шукаць іншую ідэнтычнасць. Хоць я толькі на чвэрць па крыві беларус, але не гэта галоўнае. Галоўнае — гэта самасвядомасць.

Спачатку некаторыя сябры мне казалі: «Ты, часам, не звар'яцеў са сваёй Беларуссю?». Ну, ужо цяпер яны прызвычаіліся і прапануюць: «Можа, ты грамадзянства беларускае возьмеш?». Вазьму, кажу, але не зараз.

### Мне тут дыхаецца лягчэй

**— Якія ўражанні ў вас засталіся ад першай паездкі на Беларусь?**

— Гэта было ў снежні 2010-га. Уладзімір Арлоў прапанаваў з'ездзіць у Полацк. Ён мне паказаў Сафію, мы прайшліся па вулачках старажытных... Беларусь мне спадабалася адразу. Можа, гэта ілюзія, самападман, але мне тут лягчэй дыхаецца, чым у Екацярынбургу.

Пачуваюся я тут лепей, чым у Расіі, і таму часта сюды прыязджаю.

### Краіна разумнага патрыятызму

Падчас нядаўняй вандроўкі, увечары, ля вогнішча ў Тураве, мы размаўлялі з сябрамі пра тое, што ў Беларусі ўтульней, і таму людзі адчуваюць, што гэта іх краіна. Можа, я памыляюся альбо сустракаю такіх людзей, для якіх гэта нешта значыць...

Але мне здаецца, што ў Беларусі больш добрага і разумнага патрыятызму. У Расіі чалавек не адчувае, што гэты кавалак зямлі, на якім ён жыве, цалкам ягоны. Таму там усё часовае, таму паўсюль бруд, смецце. І патрыятызм там вялікадзяржаўны альбо ксенафобскі, злы. Сумна ўсё гэта.

### Тут людзі выхаваныя

**— Шмат хто з расейцаў, якія наведваюць Беларусь, звязваюць чысціню вуліц з тым, што краінай кіруе Лукашэнка. Маўляў, у вас тут чысценька, бо ён вас усіх трымае, і таму ў вас парадак.**

— Я ўвесь час баяўся, што мяне вывернe на гэты шлях: у Беларусі ёсць Лукашэнка, таму тут вельмі чысценька. А гэта абсалютна не звязана. Тут проста людзі па-іншаму выхаваныя, па-іншаму жывуць. І будзе Лукашэнка альбо не — усё роўна будзе так, як ёсць. Чысценька — гэта не ягоная заслуга.

**— Апошнія некалькі год вы жывяце ў Таліне. Чым, на вашую думку, беларусы адрозніваюцца ад расейцаў і ад эстонцаў? У чым нашая адметнасць?**

— Беларус адчувае сябе як частку сваёй прасторы, якая называецца Беларусь. І гэта накладае пэўныя абмежаванні на яго паводзіны. Рускі з гэтага пункту гледжання менш адчувае гэтую сувязь, таму ён паводзіць сябе зухавата. Для яго можа нічога не значыць ні наваколле, ні меркаванне людзей, што побач з ім. Вельмі часта гэтая руская удаль пераходзіць усе межы.

А беларусы больш стрыманыя.

Эстонцы — гэта іншы полюс. Яшчэ больш стрыманыя, чым беларусы, і вельмі закрытыя. Гэта хутарская нацыя. Можа, беларусы былі б такімі, калі б не было калектывізацыі.

У мяне не вельмі шырокае кола эстонскіх знаёмых. Часта даводзіцца ад іх чуць: «Вось вы, рускія, часта збіраецеся разам, весяліцеся, песні спяваеце... А мы, эстонцы, у госці адзін да аднаго не ходзім. А калі сустракаемся — кожны з'есць тое, што прынёс, і разышліся». Можа, гэта перабольшанне. Але штосьці ў гэтым ёсць.

### Агеньчык пад попелам

**— Вось слухала вас і прыгадала, як некалькі гадоў таму апынулася ў Германіі, дзе праходзіў чэмпіянат свету па футболе. Я не фанатка, але немагчыма было не адрэагаваць на тыя эмоцыі, з якімі немцы заўзелі за сваю зборную. Здавалася, што ўвесь Берлін ператварыўся ў фан-зону… Можа быць, падобны ўздым ахапіў брытанцаў, калі з'явіўся на свет прынц. Як думаеце, што магло б такім чынам аб'яднаць беларусаў? Якая падзея…**

— ...ці можа быць, персона? *(Усміхаецца.)* Што можа такое знайсціся, што аб'яднае людзей? Вы кажаце пра перамогі ў спорце — так, гэта таксама падставы. Людзей яднаюць мова, гісторыя, рэлігія, сям'я. А ўсё гэта — культурныя з'явы. Невыпадкова захопнікі заўсёды імкнуцца адняць у заваяваных іх культурную спадчыну. Так было і з расейскімі захопнікамі, якія прыходзілі сюды і найперш імкнуліся знішчыць нацыянальную культуру. Мэтанакіравана праводзілася палітыка знішчэння палітычных і культурных эліт, нацыянальнай самасвядомасці, мовы. Бо нацыянальная культура — гэта сцяг, які аб'ядноўвае людзей. Нацыянальная культура існуе толькі на падмурку роднай мовы. Іншага не бывае.

З часоў Кацярыны II і да нашага часу працуюць адпаведна распрацаваныя праграмы русіфікацыі і каланізацыі Беларусі. Таму і цяпер не ў пашане сапраўдная нацыянальная гісторыя, бо яна выкрывае каланізатараў-русіфікатараў і іх паплечнікаў усіх часоў.

«Ведаеш, Павел, — расказаў мне Арлоў, — калісьці у Менску не было ніводнае школы з навучаннем па-беларуску. Дагэтуль людзі запалоханыя стагоддзямі гвалту над беларускай думкай і словам, таму інстынктыўна імкнуцца пазбегнуць усяго беларускага. Але агеньчык жыве пад попелам. Я веру ў тое, што некалі ўсе зменіцца. Нават намёк з боку ўлады, а тым больш сапраўдная палітычная воля да адраджэння будзе праяўлена — і ўсе зменіцца ў адваротны бок».

**— Калі вы набывалі сядзібу ў Падароску, вашая жонка вам не гаварыла: «Што ты робіш, Павел? Давай лепш купім домік у нармальнай краіне, дзе можна будаваць бізнэс. А там рызыкі… Ну хіба ты не бізнэсовец, хіба ты не ведаеш, куды ты лезеш? Ну вось адкрыў ты для сябе сваю радзіму — ездзі туды, сустракайся з цікавымі людзьмі. А навошта дом?».**

— *(Смяецца.)* Слухайце, вы так добра ўсё перадалі. Нават інтанацыі тыя самыя. Мне прыходзілася пераконваць жонку! Гэта былі не столькі нават бізнэс-довады. Хоць і яны ёсць, інакш нічога не атрымаецца. Але галоўная ідэя — прызнанне місіі, якую кожны павінен несці. Камусьці дадзена мастацкае слова і здольнасць пісаць кнігі. А калі ў мяне ёсць грошы, я хачу нешта пакінуць пасля сябе. Можа, і зняволенне на гэта паўплывала. Я бачыў, як раптоўна можа скончыцца жыццё чалавека. Вось пасадзілі цябе ў аўтазак з чалавекам, хворым на сухоты, ты захварэў, і нічога табе ў жыцці больш не трэба. Вось гэтае адчуванне часовасці жыцця і яго няўстойлівасці дае добры штуршок для таго, каб зразумець, што трэба пастарацца штосьці пакінуць па сабе.

**— Павел, скажыце, чаму вы фінансуеце літаратурны конкурс «Дэбют», а не конкурс «Міс Беларусь», напрыклад?**

— На «Міс Беларусь» трэба столькі грошай, якіх у мяне няма. *(Смяецца.)* Ну, гэта як раз вынік маёй упэўненасці, што трэба рабіць. Трэба дапамагаць маладым. Каб захавалася асяроддзе, з якога можа пачацца трэцяя хваля адраджэння мовы і культуры.

**Гутарыла Таццяна Гусева, «Салідарнасць»**

# Як развівацца еўрапейскай эканоміцы?

У Польшчы прайшоў **самы прадстаўнічы форум** Усходняй і Цэнтральнай Еўропы.

Эканамічны форум у польскім мястэчку Крыніца-Здруй пад Кракавам штогод збірае кіраўніцтва краін Усходняй Еўропы, а таксама тысячы экспертаў з усяго кантыненту. Мерапрыемства называюць «Польскім Давосам» — па аналогіі з месцам правядзення Сусветнага эканамічнага форума ў Швейцарыі.

Калі папярэдняя сустрэча ў Крыніцы была прысвечаная эканамічнаму крызісу, то сёлетняя — перспектывам паслякрызіснага сусветнага парадку. Эксперты шукалі хуткія спосабы, каб мінімізаваць наступствы агульнаеўрапейскай рэцэсіі.

«Палякі далі адпор крызісу», — заявіў ва ўступным слове прэм'ер-міністр Польшчы Дональд Туск і паабяцаў рэзкі эканамічны рост сваёй краіны, ледзь не самы хуткі ў Еўропе. На наступны дзень сваю эканамічную праграму прадставіў і ягоны канкурэнт, былы прэм'ер Яраслаў Качыньскі.



Прэм'ер-міністр Польшчы Дональд Туск вёў рэй на форуме.

### Дыпламаты і эканамісты

Узровень мерапрыемства вызначае спіс удзельнікаў. У Крыніцы ён аказаўся на належным узроўні. Прэм'ер-міністры Польшчы, Латвіі і Славакіі, кіраўнікі цэнтрабанкаў Венгрыі і Харватыі...

Беларуская прадстаўніцтва ў Крыніцы складалася з паўсотні чалавек: часткова кіраўніцтва прамысловых прадпрыемстваў, часткова недзяржаўных экспертаў. Сярод апошніх можна вылучыць генеральнага дырэктара Бізнес-школы ІПМ Паўла Данэйку і лідара саюза прадпрымальнікаў Уладзіміра Карагіна.

Афіцыйную частку дэлегацыі ўзначальваў намеснік міністра эканомікі Антон Кудасаў. Чыноўнікі больш высокага рангу год за годам ігнаруюць польскі форум. Вось і сёлета непасрэдны шэф Кудасава, міністр эканомікі Мікалай Снапкоў абраў для наведвання форум у Кітаі, які праходзіў у тыя ж дні.

Праз гэта і ўвага Беларусі на форуме была нададзеная мінімальная. Краіне было прысвечанае толькі адно мерапрыемства — прэзентацыя Нацыянальнага агенцтва па інвестыцыях і прыватызацыі.

Увагу чыноўнікі сканцэнтравалі на перспектывах прыватызацыі фармацэўтычнай галіны. Еўрапейскія прамысловыя гіганты на гэты рынак пакуль не заходзілі.

Кудасаву давялося трымацца не толькі як эканамісту, але і як дыпламату — дапамагла і дзесяцігадовая праца ў структуры МЗС. На пытанне, як змяніўся інвестыцыйны клімат у Беларусі пасля скандала з «Уралкаліем», чыноўнік даў імгненны адказ: «Толькі палепшаў!».

Ён пачаў тлумачыць, што канфліктная сітуацыя прадэманстравала, што ў Беларусі ўсе прадстаўнікі бізнесу знаходзяцца ў аднолькавым прававым полі: «Тое, што ніхто, разам з буйнымі бізнесоўцамі, не мае індульгенцыі, найлепшы таму доказ».

На іншыя дыскусіі прадстаўнікоў беларускага ўрада і дзяржаўнага сектара эканомікі ў якасці экспертаў так і не паклікалі.

### Які сусед Расія?

Нашмат большая ўвага на форуме была нададзеная суседняй Расіі. «Расія і НАТА», «Які сусед Расія?», «Расія і еўрапейская энергетыка» — тэмы папулярных дыскусій у Крыніцы.

Еўрапейскія бізнесоўцы цікавяцца новымі рынкамі, у тым ліку і расійскім, аднак ставяцца да аўтарытарнай краіны падазрона. Некаторыя расійскія эксперты называлі форум «антырасійскім». Без падобнай рыторыкі, вядома ж, не абышлося.

Расійцаў абурыў выступ польскага дэпутата Пятра Наімскага. «Расія — складаны, грозны і злапомны сусед. Пуцін зрабіў 4 лістапада (дзень вызвалення Масквы ад гарнізона Рэчы Паспалітай — «НН») нацыянальным святам. Гэта ж адбылося 400 гадоў таму! — абурана заявіў ён і вярнуўся ад гісторыі да рэчаіснасці. — Расія прымяняе эканамічныя рычагі, каб вярнуцца да ўплыву ў Цэнтральнай Еўропе. Мы разумеем гэта і супрацьстаім іх планам».

Прадстаўнікі Расіі тым часам імкнуліся перавесці тэму гаворкі на сітуацыю ў Сірыі і магчымую амерыканскую агрэсію, аднак усё марна.

### Лекі ад крызіса — лібералізацыя

Віцэ-прэзідэнт Еўрапейскага інвестыцыйнага банка Вільгельм Мальтарэр лічыць, што першыя прыкметы ажыўлення еўрапейскай эканомікі ўжо ёсць. Але ў той жа час ён звяртае ўвагу на высокі ўзровень беспрацоўя, які дасягнуў 11%, што стварае сур'ёзную пагрозу будучыні Еўропы. Зрэшты, па падліках прэм'ер-міністра Беларусі Міхаіла Мясніковіча, у нашай краіне працы не мае каля 9,5% працаздольнага насельніцтва.

Польскі эканаміст Міраслаў Ракоўскі выказаўся за шчыльны эканамічны саюз паміж Еўрасаюзам і ЗША як адзін з магчымых штуршкоў наперад. Гэта, на яго думку, дазволіць вытрымаць імклівы рост у бок азіяцкіх эканомік. Кітай, хоць і не вынаходзіць новыя тэхналогіі, а ўзнаўляе еўрапейскія і амерыканскія, імкнецца канкураваць на роўных.

Сярод спосабаў разгону эканомікі эксперты назвалі лібералізацыю рынку, што дазволіць падтрымаць канкурэнтаздольнасць еўрапейскіх тавараў. І гэта істотнае адрозненне ад Беларусі, дзе ў кожны крызіс улады лічаць патрэбным узяць усё ў свае рукі.

**Ягор Марціновіч, Мінск — Крыніца-Здруй**


Сябар Пуціна Аркадзь Ратэнберг задавальняе і беларускі, і расійскі бакі

# Расійскія мільярдэры ў чаканні распродажу «Уралкалія»

Керымаў **гатовы адмовіцца** ад сваёй долі ў кампаніі.

Беларуска-расійскі калійны канфлікт пайшоў на спад. Генеральны дырэктар «Уралкалія» Уладзіслаў Баўмгертнер застаецца ў Мінску пад вартай, аднак вышэйшае кіраўніцтва Расіі і Беларусі па-ранейшаму ўстрымліваецца ад заяваў на гэты конт.

Галоўны акцыянер кампаніі Сулейман Керымаў, абвешчаны Беларуссю ў міжнародны вышук, тым часам шукае шляхі ўрэгулявання канфлікту.

Як паведамляе расійскі «Камерсант», па просьбе Керымава ў Мінск на перамовы паляцеў іншы расійскі мільярдэр Міхаіл Гуцэрыеў, у якога добрыя адносіны з Лукашэнкам. Кіраўнік Беларусі нібыта катэгарычна заявіў, што ні пры якіх умовах не будзе супрацоўнічаць з Керымавым. «Няхай прадае кампанію каму заўгодна, я тады Баўмгертнера сам на сваім самалёце ў Маскву прывязу», — пераказвае выданне словы Лукашэнкі.

Неўзабаве пасля гэтага інтарэс да «Уралкалія» сталі выказваць розныя расійскія багацеі. У спісе патэнцыйных пакупнікоў нібыта значацца мільярдэры Аркадзь Ратэнберг, Уладзімір Еўтушэнкаў, той самы Міхаіл Гуцэрыеў, а таксама крыху бяднейшы банкір Уладзімір Коган. Але шанцы апошняга разглядаюцца высока, бо ён намякае, што дзейнічае па даручэнні Уладзіміра Пуціна.

Сума патэнцыйнай здзелкі ацэньваецца ў $4 мільярды. Столькі каштуюць 21,75% акцый «Уралкалія», якія належаць Керымаву і ад якіх ён гатовы пазбавіцца.

**ЯМ**

# Юрый Чыж вядзе сумесны бізнес з Дзмітрыем Лукашэнкам

Іх інтарэсы перасякліся **ў Кемераўскай вобласці.**

Актыўную дзейнасць у Кемераўскай вобласці разгарнула кампанія «КузбасБелАўто», утвораная ў ліпені 2009. Сярод яе акцыянераў беларускі мільярдэр Юрый Чыж (18% акцый), «Прэзідэнцкі спартыўны клуб» (16%) на чале з Дзмітрыем Лукашэнкам, а таксама старшыня рады дырэктараў «Гандлёвы дом «БелАЗ» Віктар Кулуеў (8%), якога раней называлі памочнікам Дзмітрыя Лукашэнкі.

Характэрна, што «Гандлёвы дом «БелАЗ» — афіцыйны прадавец жодзінскай тэхнікі па ўсёй тэрыторыі Расіі.

«КузбасБелАўто» з'яўляецца афіцыйным дылерам беларускіх гігантаў аўтапрама, апрач таго займаецца сэрвісным абслугоўваннем тэхнікі БелАЗа, МАЗа, «Белкамунмаша» і МТЗ.

**Паводле: Аляксандр Заяц, Tut.by**


На прыём да кемераўскага губернатара Чыж прыйшоў у джынсах і скуранцы

# Гісторыя жахлівага забойства і бясконцай любові

Студэнт БДУ **забіў няверную** жонку і яе каханка.

Суд прызнаў Паўла Селюна вінаватым у забойстве з асаблівай жорсткасцю. Прысуд — расстрэл. Жыццё мамы асуджанага цяпер праходзіць у электрычцы Маладзечна-Мінск, на якой яна возіць перадачы на Валадарку, дзе Павел чакае смерці. І прашэнні аб літасці для сына.

### «Масла дазволілі!»

На сталічным вакзале мы і знаёмімся з Тамарай. Да нас падыходзіць хударлявая жанчына ў ружовай кофтачцы, спадніцы ды летніх туфлях. У руках — торбы з прадуктамі і адзеннем для сына. Падхапіўшы адну з сумак, мы рушым у бок турмы на вуліцы Валадарскага. «Хутчэй, хутчэй, дзяўчаты!», — Тамара хвалюецца, каб усё паспець: перадаць рэчы ў турму, а пасля сустрэцца з праваабаронцамі.

Дзівімся, адкуль у жанчыны, якой сёлета мінуў сёмы дзясятак, столькі энергіі! «Калі вырашаецца жыццё сына, мне нельга не спяшацца!» — тлумачыць на хаду.

«Газеты можна перадаць? Не? А масла?» — пытаецца яна ў акенцы ля ўвахода ў турму. Пасля радасна звяртаецца да нас: «Масла дазволілі! Дзяўчаткі, можа б вы збегалі ў краму, узялі два пачкі?»

Разабраўшыся з маслам, праводзім Тамару ў змрочны пакойчык, дзе прымаюць перадачы. Перад ёй у чарзе чалавек дваццаць.

### Па чатырох артыкулах

Гродзенскі абласны суд сёлета прызнаў 23-гадовага Паўла Селюна вінаватым па чатырох артыкулах: забойства дзвюх асобаў з асаблівай жорсткасцю, здзек з трупаў, крадзеж і яшчэ крадзеж асабістых дакументаў. Прысуд не стаў нечаканасцю — расстраляць. Беларускія суды штогод выносяць два-тры такія выракі. Пасля гэтага Еўрасаюз прымае дзяжурную дэкларацыю аб недапушчальнасці смяротнага пакарання — Беларусь застаецца адзінай краінай у Еўропе, дзе ўсё яшчэ расстрэльваюць. А родныя злачынцы б'юць у званы, спадзеючыся адмяніць выкананне прысуду. Хоць спадзеву на памілаванне няшмат.

У апошнія гады ніводнаму з «расстрэльнікаў» пакаранне не было заменена на пажыццёвае зняволенне.

### Матчынаму сэрцу не вытрываць

У кожнага з забойцаў, асуджаных на расстрэл, свая гісторыя.

Павел — студэнт гістфака БДУ, які сёлета мог бы стаць выпускніком, музыка, малады сем'янін. «Не быў, не знаходзіўся, не прыцягваўся».

Тамара Сялюн запрашае нас у Вілейку — звадзіць у школу, дзе вучыўся яе сын, у мясцовую бібліятэку... А калі б час дазваляў, далібог, усю Вілейку б уздоўж і ўпоперак абышлі. Так яна хоча, каб журналісты пагутарылі з людзьмі, якія ведалі яе сына. Бо тыя не могуць сказаць пра Паўла ніводнага дрэннага слова.

«У школе быў нармальны, спакойны. Захапляўся гісторыяй, шмат чытаў. Што потым здарылася... Не дай Божа гэта асуджаць. Матчынаму сэрцу цяжка такое вытрымаць», — кажа Лілія Маслоўская, класная кіраўніца Паўла, ледзь стрымліваючы слёзы.

«Не разумею, як такое магло здарыцца. Для мяне гэта нонсэнс. Я яго памятаю зусім з іншага боку», — пацвярджае Вольга Якаўлева, настаўніца па класе баяна.

Добрую характыстыку для суда напісаў і адзін з выкладчыкаў гістфака БДУ.



Тамара Сялюн гатовая грукацца ў любыя дзверы, абы выратаваць сына ад смерці.

НАСТАССЯ ХРАЛОВІЧ

Наказание по моему обвинению предполагает пожизненное заключение и расстрел. Но какой бы ни была развязка я не собираюсь отказываться от своих взглядов, поворачиваться на 180°. В одной из газет представитель следствия заявил журналисту, что единственный, кто знает о том, что на самом деле произошло в день преступления, это сам преступник. Солидарен. Я знаю, за что заперт.

**«Якой бы ні была развязка, я не збіраюся адмаўляцца ад сваіх поглядаў», — піша ў лісце з турмы Павел.**



**Вікторыя, як і яе муж, і яе каханак, была нефармалкай.**

### Салідарнасць і абыякавасць

Сваіх двух сыноў — блізнятаў Паўла і Андрэя — Тамара нарадзіла ў 37 год. Яна позна выйшла замуж, муж быў на пяць год маладзейшы. Аднак шлюб доўга не пратрымаўся. Спачатку гадаваць дзяцей дапамагалі бацькі Тамары. Калі іх не стала, даводзілася спраўляцца самой, на заробак выкладчыцы каледжа. На дапамогу былога мужа ні тады, ні цяпер разлічваць не даводзілася.

Пенсія ў Тамары — 1,6 мільёна рублёў, большасць грошай ідзе на перадачы сыну ў турму. Цяпер працей: ён у Мінску, а раней трэба было ў Гродна дабірацца.

Жанчына бязмежна ўдзячна ўсім тым, хто ёй дапамагае. Калі здарылася бяда, сяброўка падарыла мабільнік. Хтосьці грошы прыносіў — «каб ездзіла да сына».

Праўда, шмат хто ў горадзе ад яе адвярнуўся. Робяць выгляд, што не бачаць — у лазні, на вуліцы. Тамара ўзгадвае, што балюча было чуць ад людзей нетактоўнае: «А гэта ў цябе здарылася?».

### Любоўны трохкутнік

Што ж здарылася ў адной з гродзенскіх кватэр у жніўні мінулага года, пасля чаго расплочвацца давялося ўсім — і ўдзельнікам канфлікта, і іх блізкім?

Павел жыў у Мінску. Там і вучоба, і праца. Каб забяспечваць і сябе, і маладую жонку Вікторыю, ён уладкаваўся грузчыкам.

Ажаніліся яны яшчэ ў лістападзе 2011. Тамара Сялюн толькі праз паўгода даведалася аб існаванні нявесткі, а пабачыць яе так і не паспела...

Знаёмыя дзяўчыны кажуць, што адносіны ў маладых не клеіліся. Паўлу зносіла дах ад кахання, а жонцы падабаўся іншы. Адносіны з мужам яна лічыла памылкай.

1 жніўня 2012 года Вікторыя пакідае на старонцы «Укантакце» допіс: «Еду ў Гродна». Праз некалькі дзён Павел прыязджае на гродзенскую кватэру, каб «правярыць» жонку, і бачыць яе з іншым мужчынам. Прычым яе каханкам аказваецца... блізкі сябар Паўла. Менавіта да Аляксея і прыехала Вікторыя.

Раз'юшаны муж забівае абоіх, але не спыняецца на гэтым. Павел рэжа на кавалкі цела гаспадара кватэры і выкідае ў сметніцу побач з домам. Пасля гэтага ён для чагосьці забірае з сабой дакументы і... галаву Аляксея (па некаторых версіях, папярэдне зварыўшы яе). З гэтым «трафеем» яго затрымалі ў Ваўкавыску, у цягніку на Мінск.

Расследаванне справы цягнулася 5 месяцаў. Следства прызнала, што Павел Сялюн не дзейнічаў у стане афекту і ўсведамляў свае дзеянні падчас злачынства.

«У адной з газет прадстаўнік следства заявіў, што адзіны, хто ведае, што насамрэч адбылося ў дзень злачынства, гэта сам злачынца. Салідарны. Я ведаю, за што закрыты», — гэта цытата з ліста Паўла на волю.

### Пад гукі чорнага металу

Каб лепш зразумець псіхалогію мужа-забойцы, трэба сказаць колькі словаў пра ягоныя інтарэсы і асяроддзе, у якім ён бавіў вольны час.

І злачынца, і ягоныя ахвяры былі прыхільнікамі цяжкай музыкі і ўдзельнікамі беларускай блэк-метал сцэны. Пад лэйблам «Morak Prod.» Павел выдаў некалькі альбомаў метал-гуртоў. Музыкі ведаюць яго па мянушках «Смутак» і «Цемрашал». Апошні дыск пад лэйблам «Морак» выйшаў, калі Цемрашал ужо сядзеў у турме.

Пэўны час ён быў рэдактарам часопіса аб славянскай экстрэмальнай музыцы «Змрок», пасля выдаваў і свой часопіс.

Са школы цікавіўся акультнымі і сатаністкімі плынямі. Гэта дало падставы некаторым экспертам назваць забойства «сатаністкім». Ці звярталі ўвагу сябры на яго спецыфічныя інтарэсы? Так, але думалі, што гэтыя захапленні ён перарасце.

Ягоны былы сябар Аляксей быў вядомы пад мянушкай «Кронум». Ён таксама меў свой лэйбл «Omega Prod.», вядомы на міжнароднай блэк-метал сцэне.

Вікторыя таксама цікавілася гэтай субкультурай, дапамагала Паўлу з працай. Знаёмыя расказваюць, што яна была мастачкай.

Жнівеньскія падзеі актыўна абмяркоўваліся на адным з англамоўных форумаў, прысвечаных блэк-металу: «Шчыра кажучы, Смутак заўсёды выглядаў больш як чалавек, які ў такой сітуацыі здзейсніць суіцыд, чым прынясе шкоду іншым. Але тое, што здарылася, пацвярджае, што выгляд падманвае», — пісаў адзін з ягоных знаёмых.

### «Толькі не пазбаўляйце жыцця»

17 верасня Вярхоўны суд разгледзіць касацыйную скаргу Паўла і вынясе канчатковы вердыкт.

Тамара Сялюн пагаджаецца, што тое, што зрабіў яе сын — жудасна. Але яна ўпэўненая, што ў нашай краіне павінна быць адменена смяротнае пакаранне. Яна ўзгадвае, што яшчэ на рэферэндуме ў 1996 галасавала за адмену расстрэлаў.

«Мой сын не зацяты бандыт. Але нават самаму зацятаму я б не пажадала, каб яго забілі. Хай працуе, пажыццёва выплочвае грошы... Толькі не пазбаўляйце жыцця», — просіць яна.

Яна напісала ўсім, каму магла, у тым ліку мітрапаліту Філарэту.

Зараз яе галоўная мэта — дамагчыся, каб сына пакінулі ў жывых. «А потым?.. Які б тэрмін яму ні далі, я дачакаюся, калі яго вызваляць. Спадзяюся на гэта».

**Аксана Рудовіч**

# Насваволіў не па-дзіцячы

Маладзечанец вырашыў **падставіць свайго крыўдзіцеля** пад крымінал.

Такое хуліганства можна было чакаць ад школьнікаў, якім надакучыла вучыцца ўжо ў першы тыдзень заняткаў. Але ў цэнтры расследавання апынуўся 30-гадовы будаўнік.

Такога масавага мініравання ў Беларусі не прыпомніцца. Адразу дзесяць навучальных устаноў Маладзечна атрымалі паведамленні аб пагрозе. Але эвакуіраваць давялося ўсе чатырнаццаць школ горада.

Лісты прыйшлі па звычайнай пошце. Як у дэтэктывах мінулага стагоддзя. Ананім пагражаў узарваць школы разам з вучнямі, калі дырэктары не пералічаць на ягоны электронны кашалёк $10 тысяч.

Пакуль следчыя шукалі ананіма, школьнікаў з настаўнікамі давялося эвакуіраваць. А ў будынкі накіравалі піратэхнічныя групы ўнутраных войскаў МУС, спецыяльнае падраздзяленне па барацьбе з тэрарызмам «Алмаз». Выбуховак так і не знайшлі, а на «мінёра» выйшлі.



Надзвычайнае здарэнне справакавалі нават не аматары прагуляць урокі.

Спачатку затрымалі ўладальніка электроннага кашалька. Мужчына, праўда, так і не зразумеў, у чым справа. Пасля затрымалі і адпраўніка лістоў. Высветлілася, што ён вырашыў проста падставіць знаёмага за былую крыўду: злосць была такая, што не пашкадаваў адправіць ворага за краты.

Аказваецца, 30-гадовы будаўнік з Маладзечна і яго «ахвяра» сустракаліся з адной дзяўчынай.

Для рэалізацыі свайго плана ён зарэгістраваў на пашпартныя звесткі ворага электронны кашалёк. Меркаваў, што гэтага будзе дастаткова, каб таго пасадзіць. А цяпер вось сам можа трапіць за краты на немалы тэрмін — да сямі гадоў. Крымінальная справа заведзеная за загадзя лжывае паведамленне аб небяспецы, што пацягнула цяжкія наступствы.

**Кастусь Матушыч**

## 18-гадовы салдат памёр у Печах

Праз пару месяцаў службы яго **вярнулі бацькам у труне**.

Уладзіслаў памёр 1 верасня ў ваеннай частцы ў Печах пад Барысавам. Дакладную прычыну смерці пакуль не называюць: устанавяць эксперты. Папярэдне — гіпертанічны крыз з ацёкам лёгкіх.

Хлопец у красавіку сустрэў сваё паўналецце. І адразу ж пайшоў служыць — трапіў у танкавую роту. Да арміі вучыўся на заатэхніка.

Апошнія дні салдат скардзіўся бацькам на павышаны ціск, болі ў галаве. «Мама, тут ад усяго толькі адны лекі: альбо зялёнка, альбо анальгін з аспірынам», — за дзень да смерці па тэлефоне расказаў Улад маці. А ўвечары 31 жніўня жанчына ўжо не змагла дазваніцца да сына. «Два разы скінулі. Ноччу я кепска спала, ранкам зноў набрала яго. Але адказаў ужо нехта з часткі: «У вас вялікае гора. Ваш сын памёр». Мне нават самой наўпрост ніхто не набраў! А потым я пазваніла яшчэ раз і спытала: «Дык, можа, майго сына забілі?» Мне адказалі: «Можа, і забілі, яшчэ ніхто нічога не ведае».

Саслужыўцы расказалі, што напярэдадні смерці Уладзіслаў звярнуўся ў медпункт са скаргамі на павышаны ціск. Яму аказалі дапамогу. Салдат лёг спаць, а раніцай яму зноў стала дрэнна. Адкачаць ужо не здолелі.

Уладзіслаў паходзіў са шматдзетнай сям'і: засталіся брат і дзве сястры. Хлопец быў прызваны на службу з артэрыяльнай гіпертаніяй першай ступені. З такім дыягназам можна служыць. Следчы камітэт цяпер праводзіць праверку.

**Паводле: Кацярына Сінюк, Tut.by**

## Вышук



**Рамана Гмырака** знайшлі мёртвым раніцай 3 чэрвеня ў Рафіеўскім садзе ў Мінску. Вядома, што ўвечары ён адпачываў там з сябрамі. Па інфармацыі міліцыі, Рамана збіў нейкі хлопец у прысутнасці дзяўчыны, а пасля адцягнуў і кінуў на ўскрайку саду. Хто ведае акалічнасці смерці Рамана, тэлефануйце на:(029) 356-02-02, (029) 381-04-19, 102.



**Баляслаў Вацлававіч Капыловіч**, 1958 года нараджэння, 23 студзеня сеў на цягнік Мінск-Масква і з'ехаў у Расію на заробкі. З таго часу родныя не атрымлівалі ад яго звестак. Мужчына пражываў у Ваўкавыску. Хто ведае месцазнаходжанне зніклага, тэлефануйце ў Савецкае РУУС Мінска на: (017) 292-52-34, (017) 292-02-02.



Мядзельскі РАУС шукае зніклага **Міхаіла Андрэевіча Пятрова**. 79-гадовы грамадзянін Расіі прыехаў 22 жніўня да сваякоў у вёску Вохабні. Уначы 24 жніўня ён некуды сышоў, і яго больш не бачылі. Прыкметы: рост каля 165 см, вочы блакітныя, на правай руцэ адсутнічае ўказальны палец, на грудзях татуіроўка ў выглядзе льва. Хто ведае месцазнаходжанне зніклага, тэлефануйце на: (01797) 5-52-23, (01797) 5-54-48.

# Вясковы злодзей паквапіўся на вядро

Расследаванне дробных крадзяжоў **адбірае шмат часу ў раённай міліцыі**.

У канцы красавіка ў жыхаркі вёскі Дрысвяты, што ў Браслаўскім раёне, са двара скралі вядро. Пра злачынства яна паведаміла ў міліцыю.

Да жанчыны прыехаў участковы і растлумачыў, што крадзеж вядра падпадаў толькі пад адміністратыўнае правапарушэнне. Пацярпелая не разгубілася і заявіла яшчэ пра крадзеж трох прасцінаў і трох падкоўдранікаў, што сушыліся пасля мыцця. Цяпер агульная сума скрадзенай маёмасці ўжо «цягнула» на крымінальнае злачынства.

Участковы вярнуўся ў Браслаў, а з Браслава ў Дрысвяты ўжо выехала аператыўная група.

Дрысвяцкая гісторыя аказалася не такой простай. Начальнік Браслаўскага раённага аддзела міліцыі Вячаслаў Грышчанка паведаміў, што вядро, на


Вядро — незаменная ў гаспадарцы рэч.

жаль, пакуль не знайшлі. «Паводле заканадаўства, калі вінаваты ў адміністратыўным правапарушэнні не знойдзены, справу спыняюць. Калі знойдзецца вядро і той, хто яго скраў, гэтую справу завядуць ізноў», — патлумачыў Грышчанка.

На пытанне, чаму размова ідзе пра адміністратыўнае правапарушэнне, хоць у папярэднім паведамленні казалі пра перакваліфікацыю яго ў крымінальнае злачынства, Грышчанка адказаў, што крымінальнай справы і не было.

«Калі аператыўная група прыехала да жанчыны, яна знаходзілася ў стане алкагольнага ап'янення. Яе даставілі ў Браслаў. Падчас высвятлення абставінаў крадзяжу жанчына блыталася ў сведчаннях наконт знікнення бялізны. Аднак потым прызнала, што ніякіх прасцін і чахлоў на коўдру ў яе не кралі. Мы нават думалі прыцягнуць яе да адказнасці за лжэсведчанні, аднак яна пакаялася, і мы не зрабілі гэтага», — расказаў Грышчанка.

Таксама Грышчанка паведаміў, што крадзяжоў у іх раёне ўвогуле няшмат. «У нас 170 кіламетраў мяжы (з Латвіяй і Літвой — НН) побач. Таму чужыя тут рэдка з'яўляюцца», — сказаў ён.

**Кірыла Хілько**

## Сцісла

### Апаліла агнём з халадзільніка

Мінчанка зазірнула ў халадзільнік, каб узяць што перакусіць, а ў выніку атрымала апёкі твару, шыі і грудзей. З-за дзвярэй шугануў агонь. Мяркуецца, што адбылася ўспышка сумесі ізабутану з паветрам. Халадзільнік 2007 года выпуску, між іншым, быў імпартны.

### Камунальніка засыпала зямлёй

Рабочыя пракладалі водаправод да прыватнага дома ў Добрушы. Калі праца была фактычна скончана, адзін з іх спусціўся ў двухметровую траншэю, каб прысыпаць трубы пяском. У гэты ж час на яго абвалілася зямля. Мужчына памёр у рэанімацыі.

### Бізнес на камандзіровачных

Вынаходлівы жыхар Міншчыны зладзіў нелегальны бізнес. Ён вырабляў падробныя рахункі і квітанцыі, якія пацвярджалі пражыванне ў гатэлях як у Беларусі, так і за мяжой. А таксама квіткі на аплату паліва і праезд платных дарог. Высветлілася, што такім бізнесам ён займаўся ў кавярні на аўтадарозе Брэст-Мінск-Орша. Цана на дакументы вагалася ўсяго ад 15 да 50 тысяч рублёў. Крымінальныя справы завялі як на лжэпрадпрымальніка, так і камандзіровачных, якія карысталіся такімі паслугамі.

### Хацела ўтапіцца з дзіцем

У Гомелі расіянка з аўтамабільнага моста праз Сож спачатку скінула сваю пяцігадовую дачку, а следам скокнула і сама. Абедзвюх выратавалі відавочцы трагедыі, яны і выклікалі міліцыю. Цяпер маці і дачка знаходзяцца ў бальніцы. Жанчына тлумачыць такі крок асабістымі праблемамі.

### Абстралялі тры аўтобусы

8 верасня ў Маладзечне хлопцы 17 і 18 гадоў з пнеўматычнага пісталета абстралялі аўтобусы. З балкона шостага паверха яны пашкодзілі чатыры бакавыя шыбы. Пасажыры не пацярпелі. Хлопцы патлумачылі ў міліцыі, што стаміліся гуляць на камп'ютары і вырашылі знайсці сабе іншую забаву. Заведзена крымінальная справа.

**КМ**

# Дзяржава здыме адказ на «Жыве Беларусь»

**Па сюжэце амерыканскі журналіст прыязджае на Плошчу — і бачыць сапраўдную праўду.**


Сяргей Здановіч стане прадзюсарам «Авеля».

Прадзюсар Сяргей Ждановіч працуе над фільмам «Авель», які стане адказам беларускіх уладаў на фільм Кшыштафа Лукашэвіча «Жыве Беларусь».

Паводле словаў сцэнарыста Андрэя Курэйчыка, кінапраект мусіць расказаць гісторыю Плошчы-2010 «аб'ектыўна», то бок з пазіцыі беларускай дзяржавы, а таксама ў мастацкай форме раскрыць «анатомію беларускага пратэсту». Сцэнарыст адзначае, што Ждановіч — адзін з функцыянераў грамадскага аб'яднання «Белая Русь».

Сам Ждановіч, які кіруе цэнтрам «Nonstop Media» пацвердзіў, што здымкі фільма ўжо пачаліся, аднак абверг інфармацыю пра тое, што кіно будзе палітычным. Ён расказаў, што выйграў конкурс на стварэнне нацыянальнага кінапраекта, які Міністэрства культуры праводзіла на пачатку года.

Цяпер Ждановіч знаходзіцца ў ЗША, дзе займаецца кантрактамі з замежнымі акцёрамі — удзел сусветнай кіназоркі ў фільме быў адной з умоваў конкурса.

Паводле інфармацыі Курэйчыка, менавіта амерыканскі артыст мусіць зняцца ў ролі журналіста, які трапляе на Плошчу і на ўласныя вочы бачыць «праўду».

«Гэта патрыятычны праект, які паказвае Беларусь як краіну прафесіяналаў, якія могуць забяспечыць яе бяспеку, — расказала «Нашай Ніве» менеджар кампаніі Nonstop Media Паліна Ждановіч, дачка пра-дзюсара. — Сцэнар фільма ўжо гатовы, аднак зараз узгадняюцца асобныя нюансы. Здымацць большасць сцэн плануецца зімой і вясной 2014».

Пра сюжэт стужкі вядома няшмат. «Авель» — гэта гісторыя двух братоў, амаль біблейская прыпавесць, перанесеная ў сучасную Беларусь. У фільме будзе некалькі так званых «флэшбэкаў» — калі дзеянне пераносіцца ў 1930-я. Здымаць фільм будуць у некалькіх краінах — у тым ліку Германіі і ЗША.

«Падзеі 2010 года ў фільме насамрэч будуць, — расказвае Паліна Ждановіч. — Аднак гэта не болей за эпізод, не гістарычны, хутчэй выдуманы сцэнарыстам. Ён не будзе прэтэндаваць на гістарычнасць, проста адна з падзеяў у сюжэце». Па словах самога прадзюсара, фільм ніяк не будзе ацэньваць тую ці іншую гістарычную падзею.

Меркаваным рэжысёрам кінастужкі будзе расеец Аляксандр Кот, вядомы па фільме «Брэсцкая крэпасць». А сцэнарыстам стаў амерыканец расейскага паходжання, які ўжо паўгода жыве ў Беларусі.

Вядома, што бюджэт «Авеля» складае два мільёны даляраў. Дарэчы, столькі ж, колькі і ў польскага фільма «Жыве Беларусь».

Прадзюсар Сяргей Ждановіч працаваў над кіно «Вышэй за неба», які нядаўна быў прэзентаваны ў выглядзе серыяла. Да таго фільм існаваў толькі ў выглядзе напаўлегальнай паўнаметражнай стужкі, створанай Андрэем Курэйчыкам і рэжысёрам Дзмітрыем Марыніным, якія былі адхіленыя ад працы над канчатковай версіяй серыяла.

**Юрась Ускоў**

# Муракамі зноў галоўны прэтэндэнт на Нобеля

**Святланы Алексіевіч у спісах няма.**

Букмекеры пачалі прымаць стаўкі на імя лаўрэата Нобелеўскай прэміі па літаратуры—2013. Усправмаць такія рэйтынгі як ісціну ў апошняй інстанцыі не варта, але часта букмекеры даюць слушныя адказы. Напрыклад, два гады таму яны ўгадалі пераможцу — шведа Томаса Транстромера. А год таму кітаец, будучы лаўрэат Мо Янь ішоў другім у букмекераў.

Лідзіраваў і тады, і цяпер 64-гадовы японскі пісьменнік Харукі Муракамі (3 да 1), папулярны і ў Беларусі. Ён аўтар такіх раманаў, як «1Q84», «Кафка на пляжы», «Нарвежскі лес», «Дэнс, Дэнс, Дэнс», «Слухай песню ветру». Аднак выкажам меркаванне: вельмі сумнеўна, што другі год запар прэмію атрымае аўтар з Азіі.

Даволі нечакана на другім месцы аказалася амерыканская аўтарка Джойс Кэрал Оўтс (6 да 1). Найбольш пладавіты перыяд творчасці пісьменніцы прыйшоўся на 1960-ыя. Тады яна стварыла раманы «Ашаламляльнае падзенне», «Сад радасцяў зямных», «Іх жыцці». Адзін з апошніх раманаў Оўтс быў напісаны ў 2000-м, называўся «Бландзінкі».

Амерыканская літаратура вось ужо 20 гадоў не атрымлівала Нобелеўскую ўзнагароду. Таму шанцы Оўтс можна разглядаць як фаварыцкія.

На трэцім месцы вугорскі аўтар Петэр Надаш (7 да 1). Сёлета па-беларуску выйшаў ягоны раман «Канец адной сямейнай сагі». Праўда, пераклад рабіўся не з мовы арыгінала, а польскай.

З суседніх нам краін у спісе прысутнічае расійскі паэт Яўген Яўтушэнка, а таксама польскія аўтары Адам Загаеўскі і Вольга Такарчук (усе 100 да 1).

Прадстаўнікоў Украіны, Літвы, Латвіі ў спісе няма. Як і Беларусі. Хоць хадзілі чуткі, што Святлана Алексіевіч мае добрыя шанцы на ўзнагароду.






**Зміцер Панкавец**



**Камертон Сяргея Ваганава**

# Памылка

Днямі са мной здарылася няшчасце: я згубіў вуліцу свайго дзяцінства.

Адбылося гэта ў Фэйсбуку, дзе я натрапіў на здымкі раёна старой Нямігі, што зрабіў у 60-я гады мінулага стагоддзя Зянон Пазняк.

Чамусьці згадалася, як Лукашэнка, толькі абраны прэзідэнтам, выказаўся пра нядаўняга суперніка: «У яго нават прафесіі няма! Фатограф...», — і зняважліва ўсміхнуўся журналістам, што таўкліся вакол...

І вось я гляджу на пазнякоўскія, нібы аднекуль з нябёс, здымкі, шукаю Нямігу, якую ён калісьці адчайна бараніў. Так, гэта яна: ад Петрапаўлаўскай царквы і далей, далей...

І навошта я пачаў спрэчку з маладым каментатарам, які сцвярджаў, што на здымку не Няміга, а Ракаўская, пасавецку — Астроўскага? Мусіць, мне карцела знайсці вуліцу, па якой у 1948-м упершыню пайшоў у школу. Той вуліцы даўно няма, нават адбітку амаль не засталося. А ў памяці?

Каб пераканаць апанента, я прапанаваў яму ўспамін. Як, размахваючы нотнай папкай на бліскучых завязках, я ішоў берагам Нямігі, што несла свае каламутныя воды яшчэ па паверхні; потым вуліцай Нямігай, уздоўж нескончанага, здавалася, шэрагу таўстасценных дамоў, міма цьмяных вітрын былых прыватных крамак ды рамесных майстэрняў, агароджаных да бляску пацёртымі чыгуннымі парэнчамі. Як час ад часу збочваў у немігаючыя правалы нізкіх арак, каб, пераадолеўшы страх, праз змрочныя, поўныя таямнічых нечаканасцяў, прасякнутыя салодкім пахам газніцаў і пячнога смуроду двары выйсці на светлы прастор плошчы Свабоды — да залатых клёнаў старога сквера з разбураным фантанам пасярэдзіне; да эцюдаў Чэрні і бясконцых пасажаў гам з расчыненых

**Аднавіць магчыма веды. А памяць — толькі захаваць, набыць ці забіць**



вокнаў колішняга дома губернатара, дзе будучыя музыкі і кампазітары спасцігалі законы гармоніі і дзівосных гукаў небасяжнай боскай вышыні...

Спрэчка скончылася тым, што я прызнаў сваю памылку, а малады апанент зазначыў, што памяць — рэч сумнеўная, «тым больш калі, як у вашым выпадку, столькі гадоў мінула».

Я пацікавіўся, хто ён — Michal Zarozhny. 1988 год нараджэння... Мінск... БДУ... Мюнхен...

І раптам я надзвычай востра адчуў, што жыву ў горадзе, якога няма.

Дамы, будоўлі, заводы, праспекты, гатэлі, плошчы, скверы, нават метро... Усё гэта ёсць. А горада няма.

Бо толькі памяць робіць горад Горадам. Роўна як вёску Вёскай, краіну — Краінай.

Супольная памяць, прасякнутая жывымі нервамі і крываноснымі сасудамі падзей і надзей.

Але дзе яна?

Дзе яна, калі пры канцы 1980-х у горадзе амаль не засталося нават даваенных старажылаў: рамесніцка-гандлёвы і служылы губернскі люд быў выбіты рэвалюцыяй і грамадзянскай, нацыянальная інтэлігенцыя згінула ў бяздонні ГУЛАГу, габрэйства — у гета, а тое, што выжыла, з'ехала на радзіму продкаў ці ў іншыя добразычлівыя землі і гарады. Вось чаму Мінска сёння больш у Ізраілі і Нью-Ёрку, Вільні і Варшаве, нават, бач, у Мюнхене...

Вось нейкія навукоўцы заклапаціліся аднавіць помнік расейскаму цару Аляксандру ІІ, што стаяў калісь у скверы на плошчы Свабоды, былой Сабornай. Пакіну ўбаку палітыку, што наўпрост выпірае з прапановы. Але дзе тая плошча і дзе той сквер?

Дзе дом губернатара, у якім ад даваенных часоў месцілася згаданая музычная школа? Дзе пасажы гам з расчыненых вокнаў? Вы іх чуеце?

Дзе мінскія помнікі, у якіх павінна жыць памяць? Мо помнікі Леніну ці Калініну? Але ў гарадах, што насамрэч гарады, помнікі жывуць сярод людзей, разам з людзьмі. Ці ж можна лічыць помнікамі тыя, што ствараюць вакол сябе пустэчу?

Не, аднавіць памяць немагчыма. Аднавіць магчыма веды. А памяць — толькі захаваць, набыць ці забіць.

Людзі, што нібыта імкнуцца шляхам рэканструкцыі аднавіць страчаную памяць, насамрэч нішчаць яе, ствараючы фальшывы рэнесанс.

Людзі, што нібыта імкнуцца набыць новую памяць, насамрэч забіваюць яе нахабнымі, на ўвесь далягляд, гмахамі.

Ну, а людзі пры ўладзе, што нібыта клапоцяцца пра памяць, насамрэч імкнуцца ўвасобіць сябе на яе фоне, закладаючы ў падмуркі навабудаў нейкія пасланні нашчадкам...

Гляджу на здымкі Пазняка, шукаю вуліцу свайго дзяцінства і пытаюся ў сябе: чаму я згубіў яе, чаму памыліўся?

А мо памылка цягнецца з таго моманту, калі, згубіўшы памяць, паверылі дырэктару саўгаса, што фатограф — не прафесія?

Я не ведаю, якім прэзідэнтам быў бы Пазняк, але ўпэўнены, што жыў бы ў Горадзе і Краіне, якія Ёсць.

Бо гэта самая адметная рыса фатографа — захоўваць Памяць.

*kamerton_41@mail.ru*

# «Кожны беларус павінен мецьтакую кашулю»

Арганізатары штогадовага фолк-фестываля «Камяніца», які прайшоў 6-7 верасня ў Строчыцах, зрабілі наведвальнікам цікавую прапанову. Той, хто прыходзіў у нацыянальным строі, мог не плаціць за ўваходны білет.

На гэтую прапанову адгукнуўся шмат хто, але некаторыя па-свойму інтэрпрэтавалі нацыянальны вобраз. Як гэта было — глядзіце ў фотарэпартажы «НН».



**Алесь, 27 год** (справа), навуковы супрацоўнік НАН Беларусі, і **Вадзім**, 26 гадоў, фінансіст: «Апранаемся ў вышыванкі, калі збіраемся на фэсты. Мой пояс мне перадала бабуля, а яна атрымала яго ад свайго дзеда. Кашулю таксама рабіла яна. А вось Алесь свой пояс зрабіў сам і пэўны час хадзіў у вышыванцы ва ўніверсітэт. Нацыянальныя строі — нашая спрадвечная справа, і я лічу, што кожны беларус павінен мець такую кашулю і апранаць яе на святы».



**Дзям'ян**, архітэктар праектаў, і **Юлія**, рамесніца: «Я былы сябра «Студэнцкага этнаграфічнага таварыства», у свой час нашай мэтай было аднаўленне беларускіх традыцый у паўсядзённым жыцці. На ўсе святы, у тым ліку і на нашае вяселле, мы з жонкай апранаемся ў нацыянальныя строі. Усё адзенне, што на мне, Юля рабіла сама. А на ёй — строй яе бабулі з палескімі арнаментамі, Юля сама рабіла толькі гарсэт».



**Таццяна, Таня і Жэня**, артысткі тэатра «Яварына»: «Носім такія строі толькі падчас выступленняў. Гэта нашая традыцыйная вопратка, яна прыгожая і зручная, таму, думаем, яе варта адраджаць».



**Мар'я, 8 год,** школьніца: «Мяне так апранула мама, яна займаецца рамёствамі і танчыць у гурце. Мы апранаем нацыянальныя строі на ўсе фестывалі і канцэрты, а таксама на народныя святы. Маё адзенне мне вельмі падабаецца, але кожны дзень хадзіць у ім не хацелася б: па-першае, доўга апранаць усё гэта, а па-другое, яно выглядае занадта святочна для вуліцы».



**Вольга**, дызайнер, і **Янка**, студэнт архітэктурнага каледжа: «Апранаем не вельмі часта, але адраджэнне традыцыі толькі падтрымліваем».



**Сяргей,** IT-спецыяліст і музыка, і **Таццяна**, студэнтка: «Набылі такія саколкі ў Кіеве, але прадавачка запэўніла, што арнамент на іх — беларускі. Я сам музыка, часта выходжу на сцэну ў гэтай саколцы і час ад часу нашу на працу пад пінжак. Але імкнуся гэтую рэч берагчы, у мяне ёсць яшчэ дзве такія розных колераў, і яны заўсёды чыстыя ляжаць у шафе, каб у любы момант можна было апрануць на якое-небудзь мерапрыемства. Хацеў бы набыць сапраўдную вышыванку, але ручная праца каштуе занадта дорага, і ў Беларусі пакуль не шмат месцаў, дзе можна гэта зрабіць».

**Падрыхтавала Настасся Храловіч**

# «Удзел ва Усходнім Партнёрстве здольны даць рэальную карысць»

**Намесніца міністра замежных справаў Польшчы Катажына Пэлчынска-Налэнч адказвае на пытанні «Нашай Нівы».**



**Катажына Пэлчынска-Налэнч**

Нарадзілася ў 1970 у Варшаве. Польскі сацыёлаг і палітолаг, спецыяліст па пытаннях, звязаных з Усходняй Еўропай. З 2012 — намесніца міністра замежных спраў Польшчы

Набліжаецца саміт Усходняга Партнёрства ў Вільні, на якім кіраўнікі Еўрасаюза зверацц гадзіннікі з прадстаўнікамі краін Усходняй Еўропы. Што мяняецца ў сувязі з новымі паваротамі ў расійска-беларускіх і расійска-ўкраінскіх адносінах? Ці ўлічвае іх Еўропа?

**— Спадарыня Пэлчынска-Налэнч, набліжаецца саміт у Вільні. Як бы Вы ахарактарызавалі адносіны паміж ЕС і Беларуссю, Польшчай і Беларуссю? Чатыры гады таму мы мелі сітуацыю дыялогу, потым была палітыка санкцый і абмежаванняў. Цяпер няма ні дыялогу, ні пашырэння санкцый. Ці гэта палітыка ігнаравання?**

— Адносіны паміж Еўрапейскім саюзам, у тым ліку Польшчай, і Беларуссю ўжо некалькі год радыкальна не змяняюцца. Умовы нармалізацыі гэтых стасункаў нязменна залежаць ад змены сітуацыі з правамі чалавека і грамадзянскімі свабодамі на Беларусі.

Тыя ваганні, што назіраюцца, — гэта розная пастаноўка акцэнтаў у палітыцы ЕС у залежнасці ад сітуацыі ў Беларусі. Калі палітыка абмежаванняў мяккая, гэта вынікае са шматлікіх чыннікаў — напрыклад, сумневаў, якія датычаць агульнай эфектыўнасці саміх санкцый як інструмента ўздзеяння. Гаворка можа ісці таксама пра ўмоўнае адкрыццё каналаў камунікацыі з афіцыйным Мінскам, як гэта мела месца ў выпадку часовай адмены санкцый супраць міністра замежных спраў Уладзіміра Макея.

У сваю чаргу, для правядзення паўнавартаснага дыялогу патрэбныя відавочныя прычыны, якія сведчаць пра рэальнае імкненне Мінска да нармалізацыі адносін па вядомых правілах і на вядомых умовах. Мы не можам казаць тут пра палітыку ігнаравання. Тым больш не варта забывацца пра сталую падтрымку, якая існуе з боку дзяржаў-членаў ЕС і самога ЕС, для беларускага незалежнага асяроддзя, абаронцаў правоў чалавека, незалежных СМІ, арганізацый, якія ўтвараюць падмурак грамадства.

**— Саміт Усходняга Партнёрства — хто будзе прадстаўляць Беларусь? Што чакаецца ў беларускім пытанні?**

— Увага ўсіх удзельнікаў падзеі ў Вільні будзе засяроджана на вырашэнні ключавых пытанняў у справах Украіны, Малдовы Грузіі і Арменіі. Застаецца спадзявацца, што той, хто будзе прадстаўляць Беларусь на пасяджэнні, будзе вяртацца з Вільні пераканаы ў тым, што ўдзел у ініцыятыве Усходняга Партнёрства мае рэальную карысць, якая вынікае з узмацнення палітычных і эканамічных адносін з ЕС.

**— Што новага можа даць Беларусі Еўропа? Якім чынам Еўропа можа зацікавіць Беларусь?**

— Падобныя пытанні ўзнікалі і ў палякаў перад далучэннем да ЕС, калі ў некаторым сэнсе мы вярталіся да сваёй наноў усвядомленай еўрапейскай тоеснасці... Беларусь з'яўляецца часткай Еўропы, культурна і гістарычна звязанай з яе традыцыямі і грамадзянамі. Вы можаце ўзбагаціць Еўропу культурай, мовай, гісторыяй, прадпрымальнасцю і працавітасцю сваіх грамадзян. Удзел у еўрапейскім праекце карыстання інструментамі палітыкі Еўрасаюза, у аснове якой салідарнасць, свабодны рух капіталу і паслуг, свабода перамяшчэння, — гэта шанец на ўсебаковае грамадска-эканамічнае развіццё, на карыстанне сродкамі, прызначанымі на мадэрнізацыю краіны і паляпшэнне ўзроўню жыцця грамадзян, з'яўленне магчымасці развіцця супрацоўніцтва ў галіне адукацыі, гаспадаркі, памежжа...

## Доўгатэрміновая карысць, якая вынікае з выбару еўрапейскага шляху развіцця, бясспрэчная

Доўгатэрміновая карысць, якая вынікае з выбару еўрапейскага шляху развіцця, бясспрэчная. Умовай удзелу ў так званым еўрапейскім праекце з'яўляецца падпарадкаванне дэмакратычным вартасцям і нормам, якія падзяляюць еўрапейскія краіны.

**— У Беларусі на сёння больш за 10 палітычных вязняў. Ці ўплывае гэта на стан адносін паміж дзвюма краінамі?**

— Польшча асабліва зацікаўлена ў тым, каб Беларусь была дэмакратычнай дзяржавай з суверэннай і прагназаванай палітыкай, — гэта нязменны стратэгічны ўказальнік нашых дзеянняў. Нам цяжка пагадзіцца з палітыкай Мінска, згодна з якой за мірнае абвяшчэнне сваіх поглядаў альбо за апазіцыйную дзейнасць можна трапіць у турму альбо зазнаць іншыя рэпрэсіі. Гэта пярэчыць асноўным дэмакратычным стандартам і вартасцям, якія мы вызнаем.

Акрамя таго, у палітыцы ў адносінах да Беларусі, мы кіруемся правілам: кантакты з беларускімі ўладамі не ўкладаюцца так, як бы мы жадалі, але беларускае грамадства павінна карыстацца максімальнай адкрытасцю з нашага боку. Таму, між іншым, мы адмянілі плату за нацыянальныя візы для беларускіх грамадзян і спрыяем прадэмакратычным ініцыятывам у Беларусі.

Мы таксама лічым, што ў адносінах паміж нашымі краінамі павінен развівацца дыялог у справах, якія натуральна павінны знаходзіцца ў сферы зацікаўленасці абодвух бакоў, напрыклад, у галіне памежнага супрацоўніцтва, развіцця малога памежнага руху, мадэрнізацыі транспартнай і памежнай інфраструктуры, супрацоўніцтва ў галіне адукацыі, эканамічных адносін і г.д. Важным момантам у двухбаковым супрацоўніцтве, на якое мы спадзяемся, з'яўляецца таксама паглыблены дыялог, які тычыцца пошуку і аховы месцаў гістарычнай памяці, які з польскага боку вядзе Рада аховы памяці барацьбы і пакутніцтва.

**— Ці будзе мець уплыў на Беларусь падпісанне альбо непадпісанне Украінай Дамовы аб асацыяцыі з ЕС?**

— Усё, што адбываецца ў рэгіёне, ускосна ўздзейнічае на Беларусь. Думаю, што пазітыўнае ўздзеянне на свядомасць беларусаў выклікаў у тым ліку і поспех структурнай трансфармацыі ў Польшчы. Падобны выпадак і з Украінай — прыняцце acquis communautaire (адзіныя нормы — **«НН»**) і пазітыўныя тэндэнцыі, звязаныя са збліжэннем Украіны з Еўрасаюзам, уплываюць на тое, як беларускае грамадства будзе ставіцца да Еўрасаюза і мэтанакіраванасць стасункаў з краінамі-членамі, у тым ліку з Польшчай.

**— Мы таксама хацелі б задаць некалькі пытанняў на эканамічную тэматыку. Польшча дасягнула поспехаў у дыверсіфікацыі крыніц энергіі. Ці існуе магчымасць супрацоўніцтва Польшчы і Беларусі ў гэтай сферы?**

— Наколькі я ведаю, Беларусь не зацікаўлена сёння дыверсіфікацыяй крыніц энергіі, затое зацікаўлена льготнымі цэнамі на газ і нафту з Расіі. Таму пытанне аб польска-беларускім супрацоўніцтве ў гэтай сферы выглядае неактуальным. Каб увогуле думаць аб супрацоўніцтве, неабходна воля беларускага боку, якая зрабіла б дыверсіфікацыю мэтай энергетычнай палітыкі.

**— Тэрмінал звадкаванага прыроднага газу пад Шчэцінам — на якім этапе вядуцца работы і што зменіцца для Польшчы пасля яго запуску?**

— Тэрмінал будуецца згодна з графікам. Нязначныя спазненні не паўплываюць на тэрмін здачы інвестыцыйнага праекта. На сёння ўвесь праект выкананы амаль на 60%. Першы танкер са звадкаваным прыродным газам павінен прыйсці ў тэрмінал — згодна з планам — паміж 1 ліпеня і 31 снежня 2014.

Тэрмінал істотна паўплывае на дыверсіфікацыю паставак газу ў Польшчу. Дзякуючы яму будзе магчымы імпарт сыравіны з любога месца на свеце, што знізіць залежнасць нашай краіны ад паставак газу з адной крыніцы. Акрамя таго, пастаўкі праз тэрмінал будуць гнуткімі, дзякуючы чаму можна будзе лёгка пакрыць павялічаны попыт на газ у перыяды найбольшай у ім патрэбы.

**— Атамная энергетыка ў Польшчы — якія планы ў гэтай сферы? Атамная электрастанцыя ў Астраўцы — якую пазіцыю займае Польшча адносна планаў яе будовы?**

— Польскі ўрад паслядоўна рэалізуе план, вынікам якога павінна быць будова дзвюх атамных электрастанцый, першая з якіх павінна быць уведзена ў эксплуатацыю да 2025. Тэхналогія ўсталяваных рэактараў будзе абапірацца на найвышэйшыя існуючыя стандарты бяспекі, г.зн. III/III+ пакаленняў.

Польшча паважае права кожнай краіны на фарміраванне свайго energy mix, у тым ліку да развіцця атамнай энергетыкі. Падчас будовы атамнай электрастанцыі на тэрыторыі Беларусі неабходна прытрымлівацца самых высокіх стандартаў аховы асяроддзя і бяспекі, а таксама адпаведных дзеючых міжнародных прававых рэгуляванняў.

**— А што з беларуска-польскімі эканамічнымі праектамі? Ці ёсць нейкія пазітыўныя прыклады супрацоўніцтва?**

— Беларусь застаецца важным гандлёвым партнёрам Польшчы, трэцім сярод краін СНД. Польскія прадпрыемствы, у прыватнасці, у сегменце малога і сярэдняга бізнесу, лічаць беларускі рынак перспектыўным для рэалізацыі сваіх бізнес-планаў. Ёсць шмат абласцей, дзе магчыма было б развіццё сумесных праектаў. Укараненне «зялёных тэхналогій», развіццё рынку капіталу альбо фарміраванне пазітыўнага інвестыцыйнага вобразу краіны — гэта, напэўна, моцныя бакі польскай эканомікі, якія маглі б быць карыснымі з пункту гледжання беларускага рынку.

Вядома, канчатковы поспех любых эканамічных праектаў залежыць ад дзелавых разлікаў канкрэтных гаспадарчых суб'ектаў і спрыяльных умоў для бізнесу на дадзеным абшары.

**— Што з праектам будаўніцтва вугальнай электрастанцыі ў Зэльве, пра які гаварылася 5 гадоў таму? Ці ёсць шанцы на яго рэалізацыю?**

— Праект будовы вугальнай электрастанцыі на тэрыторыі Беларусі — гэта рашэнне польскіх гаспадарчых суб'ектаў, якія засноўваюць свае рашэнні на дзелавых разліках і ацэнцы магчымасці вядзення стабільнай гаспадарчай дзейнасці. Прыязны інвестыцыйны клімат застаецца ключавым фактарам прыцягвання замежных інвестараў і сведчыць аб сур'ёзным падыходзе да сумесных бізнес-пректаў ва ўсіх сектарах эканомікі. Гэты прынцып дзейнічае адносна ўсіх замежных рынкаў, у якія прадпрыемствы збіраюцца ўкладваць свой капітал, незалежна ад краіны паходжання.

**— Традыцыйна шмат прэтэнзій выклікае праца польскіх консульскіх установаў на Беларусі. Чэргі, немагчымасць зарэгістраваць электронныя візавыя анкеты — адным словам, балаган. Ці ёсць шанцы на змену гэтай сітуацыі?**

— Варта паглядзець на статыстыку. З яе вынікае, што колькасць выдаваных польскімі консульскімі ўстановамі на Беларусі віз расце з года ў год — у 2011 было выдадзена 300 тысяч віз, у той час калі ў 2012 — ужо больш за 350 тысяч віз, і гэта амаль 50% віз, якія выдаюцца беларускім грамадзянам усімі краінамі ЕС.

Праблемай у рэалізацыі нашых намераў па максімальным адкрыцці мяжы для беларускага грамадства з'яўляецца абмежаванне [Беларуссю] колькасці польскіх консулаў, а таксама ўжыванне метадаў, якія вельмі ўскладняюць эфектыўную працу консульскіх аддзелаў. Аднак гэта праблема не нашага боку. Калі можна было б павялічыць штат консульскіх установаў, то ўвесь візавы працэс быў бы значна больш прыязны для грамадзян Беларусі.

# Чаму Вітаўт не стаў каралём?

Нацыянальны тэатр оперы і балета адкрыў сезон прэм'ерай спектакля **«Вітаўт»**.



У фінале балета Вітаўт апускае карону на падлогу і кідаецца да Ганны. Тая ледзь не падфутбольвае яе

Асобы нацыянальных герояў Беларусі і яе выбітных ураджэнцаў часцей рабіліся галоўнымі героямі спектакляў, ажыццёўленых у драматычным тэатры. За гады незалежнасці Оперны зрабіў усяго некалькі пастановак, дзеянне якіх адлюстроўвала гістарычнае мінулае краіны. Гэта балет «Жарсці (Рагнеда)» Андрэя Мдзівані, оперы «Князь Навагрудскі» Андрэя Бандарэнкі і «Сівая легенда» Дзмітрыя Смольскага. Пагадзіцеся, тры пастаноўкі больш чым за два дзесяцігоддзі — літаральна кропля ў моры!

### Скарочаная п'еса Дударава

Галоўная вартасць спектакля — яго музыка, якую напісаў вядомы беларускі кампазітар Вячаслаў Кузняцоў. Слухаючы «Вітаўта», фізічна адчуваеш адлегласць больш чым у сем стагоддзяў (дырыжор-пастаноўшчык Вячаслаў Воліч). Музыка структураваная, у ёй цудоўна выпісаныя дуэты і масавыя сцэны, што адпавядае законам музычнай драматургіі і дае карт-бланш харэографу.

Лібрэта балета належыць Аляксею Дудараву. У 1993-м ён напісаў п'есу «Князь Вітаўт», якая доўгі час з поспехам ішла ў Купалаўскім. Дудараў добрасумленна, але крыху механічна скараціў сюжэтныя лініі і герояў, непатрэбных для новай пастаноўкі. Але праца драматурга і лібрэтыста адрозніваюцца. У п'есе існавала гармонія і пэўны «кансэнсус» паміж сцэнамі лірычнымі і «дзяржаўнымі». Апошнія найбольш праяўляліся ў маналогах і дыялогах стрыечных братоў Вітаўта і Ягайлы. У лібрэта «палітычная» лінія істотна скарацілася, таму рухавіком усяго дзеяння сталі паводзіны жанчын. Прыгажосць Ганны (у розных складах Людміла Хітрова і Ірына Яромкіна) выклікае канфлікт паміж Ягайлам (Юрый Кавалёў і Алег Яромкін) і Вітаўтам (Антон Краўчанка і Ігар Аношка); пакрыўджаны выбарам дзяўчыны, якая абрала Вітаўта, Ягайла нападае на сям'ю стрыечнага брата, забівае яго бацьку і свайго дзядзьку Кейстута (Дзмітрый Шэмет); Ганна аддае Вітаўту ўласную вопратку і такім чынам вызваляе галоўнага героя з вязніцы. (Дарэчы, падказка выканаўцу галоўнай партыі: калі ён сыходзіць з турмы, лепш закрыць плашчом галаву. Інакш як падмануць ахоўнікаў?)

### Гісторыя пра каханне

Акцэнт на ролі жанчын спрашчае гісторыю і не дае выканаўцам мужчынскіх партый раскрыць характары сваіх герояў і паказаць іх ролю ў развіцці краіны. Фактычна ўбачаная пастаноўка робіцца яшчэ адной гісторыяй пра каханне. Але ўявіце, што паводзіны Спартака і Ціля Уленшпігеля ў аднайменных балетах вызначаюць толькі пачуцці да сваіх абранніц, а не прага свабоды! У ідэале абодва складнікі мусяць знаходзіцца ў гармоніі. Пасля прагляду «Вітаўта» не зусім зразумела, чаму асоба галоўнага героя засталася ў памяці беларусаў на стагоддзі.

Харэаграфія і пастаноўка балета належаць Юрыю Траяну, у мінулым аднаму з вядучых танцораў трупы. Але «Вітаўт» чарговы раз пераканаў: салісты, якія доўга выконвалі галоўныя партыі, рэдка робяцца самабытнымі харэографамі. Бо пачынаюць мысліць тымі пластычнымі сказамі, зваротамі, ідыёмамі, якія ўвайшлі ў іх свядомасць за не адно дзесяцігоддзе. Падчас спектакля я стамляўся фіксаваць цытаты, убачаныя ў пастаноўках Валянціна Елізар'ева. Напрыклад, пачатак Вітаўта» нагадвае «Вясну сявятарную»; сцэна, калі ў замак Кейстута ўрываюцца ворагі, узятая з «Рагнеды»; фрагменты адажыя Вітаўта і Ганны, а таксама фінал пазычаныя са «Спартака»... Так, у балеце сустракаюцца асобныя небанальныя харэаграфічныя эпізоды, якія ніядрэнна б глядзеліся ў мініяцюрах. Але, на жаль, Траян цалкам не выкарыстоўвае патэнцыял, закладзены ў музыцы. Празмернае выкарыстанне элементаў драмбалета харэаграфіі (калі пантаміма і драматычныя сродкі выразнасці часам зусім неабгрунтавана выцясняюць уласна танец) пакідаюць сумнае ўражанне.

### Раўнівы Ягайла?

Лібрэтыст і харэограф досыць адназначна трактуюць паводзіны герояў і адразу паведамляюць гледачам, хто дрэнны, а хто добры («мужны і мудры Вітаўт Вялікі, хітры, праніклівы і жорсткі Ягайла, пяшчотная, далікатная і моцная Ганна, высакародная і велічная Ядвіга»). Для асабліва нездагадлівых гледачоў уведзеная партыя чалавека-павука... прабачце, Чорнага чалавека (па выпадковым супадзенні, цалкам адмоўнага героя). Магчыма, яны знаходзяцца ў палоне беларускіх сярэднявечных летапісаў, аўтары якіх усяляк усхвалялі Вітаўта і адмоўна ацэньвалі Ягайлу. Але майстэрства харэографа і заключаецца ў тым, каб вобразы герояў выглядалі неадназначнымі. Напрыклад, у балеце «Спартак» палкаводзец Крас (у выкананні Віталя Пятроўскага) змагаецца з беглым рабом таму, што бунтарства апошняга было пагрозай існаванню Рыма, усёй антычнай цывілізацыі, заснаванай, тым не менш, на рабскай працы. А чым патлумачыць паводзіны Ягайлы, акрамя банальнай рэўнасці да былога сябра Вітаўта?

Засмучае, што сюжэт балета часам застаецца не зразумелым для публікі. Не чытаючы сціслага зместу, немагчыма здагадацца, што Чорны чалавек запрашае Вітаўта на вяселле Ягайлы і Ядвігі. Што Ганна, калі да яе прыходзяць забойцы каханага, ператвараецца ў міфічную Леду (у фінале, відаць, адбываецца яе рэінкарнацыя, бо галоўны герой кідаецца да яе як да жывой істоты). У першых сцэнах часам цяжка адрозніць Вітаўта і Ягайлу, апранутых аднолькава (яны ўсё ж стрыечныя браты, а не сіямскія блізняты)... Цікава, ці зразумее такія моманты нетэатральная публіка?

Крыху большага чакаў я ад сцэнаграфіі Эрнста Гейдэбрэхта. У 1980-я гады гэты выдатны мастак працаваў у Мінску і быў адным з сааўтараў такіх шэдэўраў, як «Карміна Бурана», «Балеро», «Рамэа і Джульета». У першай дзеі «Вітаўта» асноўным элементам сцэнаграфіі ёсць галава зубра (у першых сцэнах яна выклікае асацыяцыі з паганскім богам). У другой дзеі мастак пераносіць нас у інтэр'еры каралеўскага палаца ў Кракаве, вырашаныя ў колерах польскага нацыянальнага сцяга. Увогуле, сцэнаграфія Гейдэбрэхта ўражвае эфектнасцю, унутранай сілай і... статыкай, бо яна нерухомая і, асабліва ў першай дзеі, хутчэй ілюструе падзеі.

### Карона на падлозе

...Рэальны Вітаўт усё жыццё марыў стаць каралём. Але карону, замоўленую ў Рыме, перахапілі палякі, а вялікі князь неўзабаве памёр. Аднак існуе магчымасць своеасаблівай мастацкай сатысфакцыі: адлюстраваць у творы мастацтва героя як выбітную асобу, усё ж вартую высокага тытула, што пазней замацуецца ў масавай свядомасці. З гэтай нагоды спынюся на характэрным эпізодзе: у фінале балета, пасля таго як Вітаўт перамог, ён апускае карону, сімвал улады (!), на падлогу (!!!) і кідаецца да Ганны. Зразумела, перад намі яшчэ адна праява ўсёпераможнага кахання! Але неўзабаве карона пачынае перашкаджаць, блытаецца пад нагамі, і балерына (спадзяюся, незнарок) ледзь не «падфутбольвае» яе. Пакуль у мастацтве будзе дамінаваць такое ўспрыняцце мінулага, Вітаўт асуджаны заставацца не каралём, а князем. Хай сабе і вялікім.

**Дзяніс Марціновіч, Budzma.org**

Вачыма гісторыка

## Замест гісторыі Вітаўта — меладрама пра Витовтаса

Чакалася, што менавіта фігура Вітаўта стане цэнтральнай для звароту сучаснай беларускай культуры да эпохі ВКЛ. Відавочная была і патрэба ў стварэнні балета з нацыянальным каларытам. Калі для оперы ў мінулым годзе такім опусам стала «Сівая легенда», то балетны рэпертуар у гэтым дачыненні быў цалкам пусты. Што ж атрымалася?

Паспрабуем найперш разабрацца з нацыянальна-гістарычным складнікам, які ўсё ж, напэўна, мусіў быць у гэтым спектаклі. Беларуская мова адсутнічае, уся суправаджальная прадукцыя на рускай мове, на англійскую мову назва балета перакладаецца як Vitovt (Vitovtas). Гэта ўжо поўная недарэчнасць, нават калі не казаць пра спробу падыграць літоўцам.

У сцэнаграфіі поўнасцю адсутнічаюць любыя сімвалічныя адсылкі да эпохі ВКЛ — ніяўжо нельга было звярнуцца да багатай і насычанай іканаграфіі гэтай эпохі, а не ствараць абсалютна тэатральна-надуманыя вобразы? Адзіны раз толькі пры адлюстраванні кракаўскага Вавеля прысутнічае штандар з белым арлом, ды і то, абрэзаны на палову. На выявы «Пагоні» і не спадзявайцеся, хоць і для Ягайлы гэты сімвал быў не менш сваім.

Замест яркай і трагічнай гісторыі Вітаўта прапануецца звычайная меладрама, героямі якой маглі быць абсалютна іншыя персанажы, без усялякай згубы сэнсу. Барацьба паміж Вітаўтам і Ягайлам пачынаецца сярод купальскіх паганскіх абрадаў ушанавання Леды. Не зразумела, праўда, чаму літвіны падчас Купалля ўшаноўваюць грэцкую багіню, добра, што хоць не робяць крывавыя ахвярапрынашэнні Зеўсу.

Пры добрай музычнай аснове атрымалася відовішча, якое так і хочацца назваць антыгістарычным балетам, да таго ж, пры вельмі сумнеўных эстэтычных вартасцях.



**Аляксей Ластоўскі**

Кандыдат сацыялагічных навук, спецыяліст у галіне нацыянальнай ідэнтычнасці.

# Чыноўніцкая мафія

**У нашай краіне развялося столькі чыноўнікаў, як тых васількоў у жыце — не злічыць.**

Пад іх цяжарам наша сінявокая рэспубліка сагнулася ў тры пагібелі і ледзь трымаецца на нагах...

Гэта адчуў нават Аляксандр Рыгоравіч, які падпісаў загад аб іх тэрміновым скарачэнні ажно на дваццаць пяць працэнтаў. Бо да яго дайшлі чуткі, што чыноўнікі ўсіх рангаў да таго абарзелі, што нікога не баяцца, а бяруць хабар нават у сваіх кабінетах.

І ўстанавіліся негалосныя таксы: колькі, каму і за што трэба кінуць «на лапу». Так, напрыклад, чыноўнік сярэдняга звяна бярэ за свае паслугі да пяцісот тысяч даляраў. А ў вышэйшых па статусе стаўка аўтаматычна падымаецца да некалькіх мільёнаў.

Апошнім часам пачалася чарговая кампанія па навядзенні парадку ў будаўнічай сферы. Даўно пара — справа добрая. Але на каго заводзяць гучныя справы і саджаюць за краты, то гэта так званых «стрэлачнікаў». А сапраўдныя віноўнікі сядзяць у цёплых кабінетах і толькі пасмейваюцца.

Бо хто выдаў махляру-прадпрымальніку зямельны надзел на будаўніцтва жылога дома? Чыноўнік, якому далі хабар. А другі — выдаў грошы ў банку, а трэці — рабочых-будаўнікоў. І вось ён будуе дом і кожны месяц «выкручвае» рукі будучым уладальнікам кватэр, павялічваючы цану аднаго квадратнага метра.

Міхаіл Мясніковіч заявіў на ўсю краіну, што ўрад па прапанове аднаго з чыноўнікаў рыхтуе ўказ, каб браць падатак у буйным памеры з непрацуючых грамадзян. Думка ва ўрадзе такая: раз ёсць грамадзяне, якія не працуюць, але ж за штосьці жывуць, маюць нелегальны бізнес, то няхай падзеляцца з дзяржавай.

Бо грошай у бюджэце катастрафічна не хапае... Нават канадскія хакеісты адмаўляюцца ў нас гуляць за мізэрныя сто тысяч даляраў у месяц.

Наступнай казырнай картай у руках прэм’ера аказаліся непрыватызаваныя кватэры нашых грамадзян. Хтосьці з кемлівых чыноўнікаў прапанаваў перавесці іх у арэнднае жыллё, бо цяпер пачынаюць будаваць такія дамы для маладых беларусаў.

І што ж атрымаецца? Жыве, дапусцім, адзінокі пенсіянер, атрымлівае дзесьці паўтара, няхай нават два мільёны рублёў пенсіі, то адзін давядзецца плаціць за кватэру, якую ён калісьці атрымаў, але не паспеў прыватызаваць. Як такому небараку пражыць? А чыноўніку гэта «да лямпачкі». Галоўнае — пацякуць у бюджэт дзяржавы мільярды рублёў. Гэты ўказ у цяперашні час рыхтуецца ва ўрадзе, пасля пойдзе на подпіс прэзідэнту.

Мой сусед, дзед Кузьма, пабег было тэрмінова прыватызаваць сваю аднапакаёўку. А там яго агарошылі: плаці, дзед, сто шэсцьдзясят мільёнаў. Праўда, не адразу. Першы ўзнос — усяго сямнаццаць мільёнаў, а пасля, на працягу сарака год, давядзецца яму выплочваць амаль па чатырыста тысяч на месяц.

То яго хапіў такі удар, што ён ледзь не загрымеў у бальніцу. Але я яго ўратаваў. Прынёс пляшку гарэлкі...

Цяпнулі з ім па чарцы, потым яшчэ, то ён і супакоіўся. Пасля трэцяй чаркі аказалася, што жыццё не такое ўжо і кепскае. «Рыгоравіч такога не дазволіць, каб пусціць дзеда Кузьму, знакамітага ў свой час каваля, ісці жабраваць з торбай па вёсках!» — выкрыкнуў ён, потым упаў на ложак і заснуў.

У народзе ходзяць чуткі, што распрацоўваецца яшчэ адзін загад. Згодна з якім уладальнікі кватэр, якія пражываюць пачынаючы з чацвёртага паверха і вышэй, будуць даплочваць ад дваццаці тысяч рублёў і больш за тое, што дыхаюць чысцейшым паветрам.

Чыноўніцкая мафія пранікла ва ўсе галіны нашай гаспадаркі. Вось свежы прыклад. Бяром наш «Мінгаз». Там чыноўнікі на чале са сваім начальнікам «не спяць у шапку», а думаюць дзень і ноч, каб працаваць з прыбыткам.

Асабіста я плачу за газ кожны месяц. Заплаціў за май 2800 рублёў. А побач яшчэ чытаю: «Входящий остаток» — 10250 рублёў. А за чэрвень так званы «остаток» ужо склаў 15000 рублёў.

Два дні тэлефанаваў па розных інстанцыях, пакуль урэшце ўладарны жаночы голас мне не адказаў так: «А где вы шляетесь, а? У вас нужно газовый счётчик поменять, а вас вечно нет в квартире».

«Дык замяніце, калі гэта будзе?» — спытаў я.

«Где-то в конце сентября!» — адказала яна.

То мне яшчэ гэты «остаток» дабавяць за ліпень і жнівень, ды ўсё па ўзрастаючай.

А я трэці год без працы!

Давядзецца плаціць падатак за беспрацоўе, які агучыў спадар Мясніковіч. Цікава, якога той будзе памеру?

Толькі адзіны бачу выхад: у кіраўніцтва краіны павінны прыйсці новыя людзі, з іншымі, больш прагрэсіўнымі поглядамі на жыццё, маладыя і таленавітыя.

**Павел Савоська, Мінск**

# Вярніце Купалу ў Бараўцы!

У ліпені мне выпала правіць здароўе ў Бараўлянскім вайсковым шпіталі імя Машэрава. Дыягназы самыя разнастайныя: тут і арытмія, і ціск, і дыябет... А самае галоўнае — я з малых гадоў інвалід па зроку. Правае вочка пасля кансультацый знанага маскоўскага афтальмолага Фёдарава мне выдалілі... Адным словам, гады, хочаш не хочаш, а робяць свае сляды. Але ёсць у мяне і пакуль не загоеная духоўная рана.

Побач з Бараўлянамі, каля Вячы, ёсць адзін куточак — Бараўцы. У свой час, у 1904—1909 гадах, гэты кут прывабіў сям’ю Луцэвічаў, і яны ўзялі яго ў арэнду. Тут Купала прычакаў сваю першую паэтычную кніжку «Жалейка», напісаў шэраг класічных твораў: «Адвечную песню», «Шэпчацца явар з калінаю». Па сутнасці, Бараўцы — першае Купалава літаратурнае гняздо. Тут ён стаў Беларускім Песняром.

Амаль усе куточкі Зямлі, дзе толькі ступала Купалава нага, ушанаваныя. І толькі Бараўцы побач з Мінскам, з сталіцай Беларусі, абдзелены ўвагай. Гэта дакор не толькі мясцовай уладзе, але ўсёй творчай інтэлігенцыі. Маглі б узяць Бараўцы пад апеку і самыя блізкія ад іх школы — Дубаўлянская, якая цяпер у Бальшавіку, колішнім Кажухаве, і Папярнянская.

Кажуць: «Дык нічога ў Бараўцах не ацалела з Купалавых часоў». Так, ні забудовы, ні якіхсьці іншых прыкмет колішняга фальварка. Але дакладна вядомы той пагорак, на якім месцілася арандаваная Луцэвічамі сядзіба пані Стралкоўскай. Ацалелі і краявіды, якія атулялі колішнюю сядзібу з азярком-лугавінай. То хоць бы на ўскрайку таго пагорка пасадзіць дрэва, якое колісь апеў Купала — явар. Яго так не стае ў Бараўцах. А пры явары тым — і каменьчык якісь паклалі б. І нядорага было б. І заўсёды была б згадка пра Янку Купалу ў Бараўцах.

**Уладзімір Содаль**

# Беларуская глыбіня. **Берасце ўкрыжаванае**

Піша **Павел Севярынец.**

*Але Ён паранены быў*
*за грахі нашы*
*і пакутваў*
*за беззаконні нашы;*
*кара свету нашага*
*была на Ім,*
*і ранамі Яго мы ацаліліся.*
*Ісаі 53:5*



**Павел Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

Калі стаіш у музеі «Берасце» і ўзіраешся ў чорную тысячагадовую яму з падмуркамі ды зрубамі хатаў, бачыш, колькі чалавечых жыццяў напластавалася за гэты час, колькі жыццяў стлела, якая руіна храмаў і якое радовішча герояў гісторыі пад нагамі, — займае подых: з якога ж дна прабіваўся гэты горад, якой глыбіні гэтая рана, поўная попелу і бітай крывавай цэглы...

Чаму ўдар за ўдарам зло біла, грохала менавіта сюды, крышыла святыні з такім шалам і не давала зажываць гэтаму агромністаму крывацёку?

У камяністых ваколіцах Ерусаліма цвікі працялі цела Хрыста — а праз стагоддзе ў сутоцы Буга і Мухаўца рэхам адгукнуліся ўдары молатаў, якімі ў балоцістую зямлю забівалі палі паселішча готы. Ох, даўно Госпад і д’ябал пазначылі гэтае месца будучага стыку цывілізацыяў, мяжавы слуп народаў і імперыяў, сталіцу вернікаў, грэшнікаў і мытнікаў — *ранай*.

**Берасце сталася самай страшнай, глыбокай ранай у спляценні жылаў і нерваў Беларусі, Польшчы ды Украіны**



Менавіта яго, Берасце, жалезнымі ўдарамі крыжакоў-рыцараў Генрыха Ланкастэра, будучага караля Англіі, Вітаўт адбіў у Ягайлы ў 1380-х, у 1409-м таемна выкоўваў разгром таго самага рыцарства пад Грунвальдам. Менавіта Берасце першым у межах сучаснае Беларусі атрымала магдэбургскае права — і стала галоўным горадам беларускага Ізраіля ў залатым веку XIV—XVII стагоддзяў, цэнтрам габрэйскіх грамадаў ВКЛ. Рымскі закон і адчай гнанага габрэйства зноў сутыкнуліся тут — і зноў, як у Юдэі пачатку нашай эры, пад грукат цвікоў паміж імі падняўся крыж.

Якраз тут — самае балючае месца на целе беларускай царквы. Гэта з Берасця, з надрыўнага шва праваслаўнага і каталіцкага свету, у 1550-х раптам пачала крынічыць Рэфармацыя. Мікалай Радзівіл Чорны, берасцейскі ваявода і найбольш уплывовы вялікалітоўскі магнат, абвясціў, што вяртаецца да простай веры ў Хрыста, заклаў першы кальвінскі збор, друкарню, выдаў Берасцейскую Біблію гатычным шрыфтам, каб навярнуць да евангельскага руху Польшчу... ды так заструменіла, што і праз стагоддзі, дацяпер Берасцейшчына — край пратэстанцкіх грамадаў.

Якраз тут, на зломе, у сутаргах, у крыках нараджалася найвялікшая *унія* за ўсе часы хрысціянскага падзелу, што ахопіць бальшыню беларусаў, пакіне адчуванне болю на цэлыя стагоддзі і дасць мільёны нашчадкаў ад Украіны да Канады і Аўстраліі.

Гэта яна, успоратая вострым жалезам берасцейская глеба, сталася амбонам і для правадыра уніі, берасцейскага кашталяна Іпація Пацея — і магілаю для ягонага яраснага супраціўніка, берасцейскага манаха Афанасія Філіповіча, закапанага жыўцом у зямлю, прылічанага да святых пакутнікаў праваслаўнай царквой, ды яшчэ і плахаю для езуіта Андрэя Баболі, якому звар’яцелыя казакі павыбівалі зубы, вырвалі язык ды валасы, садралі скуру і павесілі за ногі па-над скрываўленым долам...

Даруй ім, Госпадзе, бо не ведаюць, што твораць!..

Білі шведы, білі казакі, білі расейцы, білі палякі, білі немцы, білі бальшавікі... Бурылі замак, палілі жыхароў, усаджвалі зброю на ўсю глыбіню, каб знішчыць беларускую таямніцу.

І калі Расейская імперыя канчаткова расцяла Рэч Паспалітую напрыканцы XVIII ст., нават пытання, дзе забіць цвік, не ўзнікала. Увесь стары горад быў выпалены «выпадковымі» пажарамі, храмы зруйнаваныя — і з гэтай самай барвовай цэглы зубцамі, байніцамі і ўсёй пачварнай пашчай ашчэрылася Крэпасць. Пад Цытадэллю былі пахаваныя ўсе 500 гадоў цывілізацыі ВКЛ — і цяпер пусты горад, аднесены на дзве з паловай вярсты на ўсход, будзе толькі здалёк назіраць за тым, як б’ецца ягонае старажытнае сэрца.

Так Берасце сталася самай страшнай у гісторыі Беларусі, самай глыбокай ранай у спляценні жылаў і нерваў Беларусі, Польшчы ды Украіны — раны з агромністым іржавым цвіком Крэпасці.

Як тут білі, плявалі, вялі скрозь кляцьбу Беларусь!.. Дзялілі і паласавалі, нібы рызы Хрыстовы, кідалі жэрабя пра ейны лёс — і абвяшчалі тае рассячэнне не якім іншым — *Брэсцкім мірам*. А потым па жалезных літарах Пакту Молатава-Рыбентропа ў верасні 1939-га тут, тут, тут забівалі, пячаталі стравым крокам на супольным парадзе гітлераўская ды сталінская імперыі, брыгады Крывашэіна і Гудэрыяна.

Што ж яна магла рабіць пад бомбамі Люфтвафэ ў чэрвені-ліпені 1941-га, гэтая Крэпасць — толькі паміраць і не здавацца.

Яшчэ ўдар — і нацысты знішчаюць велізарнае гета: каб не нараджала больш берасцейская рана ані стваральніка *брэсцкага* метаду вывучэння Талмуда Хаіма Салавейчыка, ані матэматыка, асістэнта Эйнштэйна, Якава Громера, ані прэм’ера адноўленай дзяржавы Ізраіль, лаўрэата Нобелеўскай прэміі міру, Менахема Бегіна.

Яшчэ ўдар — і горад засяляецца пасля вайны савецкімі вайскоўцамі...

Але менавіта яна, берасцейская рана, пры канцы XX стагоддзя з Віскулямі раптам раскроіла «ад Брэста да Курылаў» увесь СССР — і адсюль жа вырваліся найвастрэйшыя носьбіты пранізлівай, наскрозь празрыстай беларускасці: філолаг класічнага правапісу Вінцук Вячорка, дырэктар беларускай службы «Радыё Свабода» Аляксандр Лукашук, нашаніўскі рэдактар Андрэй Дынько...

Ясны знак раны і сапраўдны сцяг Берасця — бел-чырвона-белы.

Каб прабіцца ад Бога да чалавека, Богу-чалавеку давялося даць прабіць Сябе.

«Ранамі Яго мы ацаліліся»...

Ёсць гарады, у якіх, калі распластаешся нават на асфальце, табе будзе грукаць у грудзі.

Ці ведаюць, ці памятаюць сённяшнія трыста дваццаць сем тысячаў насельнікаў гэтага горада, дзе Бог даў ім жыць? Ці ведаюць, што шчопць берасцейскага праху ў сутоцы Буга ды Мухаўца пабывала і храмам, і крэпасцю, і чалавекам? І што кожнаму берасцейцу дадзена аднойчы паспытаць раптоўна ўнутранае здрыганне, калі памяць раптам разрываецца на крыжы, і, працятая, з пырскамі крыві і вады, расхінае табе ў зямной ране браму — на неба, следам за Ісусам Хрыстом...

*Куплін*

# Парцалянавы сабачка

Алена Хрышчановіч.
Апавяданне.

*Віктару Мельнікаву*

Першымі крокамі маёй шпаркай кар'еры ў Вільні я быў абавязаны добрай пра мяне думцы майго начальніка, калежскага асэсара Міхневіча. А гэтая добрая думка грунтавалася, у немалой ступені, на заўвазе з вуснаў Вацлава Жылінскага, тады яшчэ не біскупа, а каноніка, але чалавека ўжо многімі паважанага. Падзеі ж, якія прывялі да гэтай заўвагі, былі наступныя.

У сакавіку 1844 года адно даручэнне змусіла мяне аб'ехаць ледзь не ўвесь Лідскі павет, нядаўна перададзены ў нашую губерню з Гродзенскай. Быў я зусім малады, шчаслівы сваім чатырнаццатым рангам чыноўнік, з захапленнем браўся нават за найдурнейшую працу і думаў, што ўвесь свет хоча паціснуць мне руку і запрасіць у госці. Трэба згадзіцца, што сустракалі мяне ў мястэчках павета і сапраўды добра і клікалі ў госці нярэдка, а адно запрашэнне было зусім асаблівае. У мястэчку Б. — апошнім, якое я мусіў наведаць перад вяртаннем у Вільню, — мы гаманілі, стоячы на вуліцы, з тамтэйшым чыноўнікам, чыё імя мне цяпер так жа немагчыма згадаць, як і пасаду, калі ўвагу маю прыцягнуў стары, які акурат мінаў нас, пастукваючы кіёчкам. Старасвецкая вопратка, грунтоўнае пуза, абвіслая скура на твары і пукатыя вочы рабілі яго падобным да індыка, але індыка годнага, паважнага і нават прыемнага. Мой суразмоўца таксама яго заўважыў і гукнуў:

— Добры дзень, пане паэце!

Стары павярнуўся да нас, цырымонна нахіліў галаву і збіраўся ўжо ісці далей. Мой суразмоўца, аднак, паспяшаўся да яго:

— Пане паэце, дазвольце вам прадставіць пана... — да майго прозвішча і чыну ён дадаў трохі празмерныя ўхвалы маім здольнасцям і назваў мяне, сярод іншага, пісьменнікам (я абмовіўся яму раней, што спрабую пісаць апавяданні, хоць і без вялікага поспеху). Таго, каго называлі панам паэтам, гэта зацікавіла. Ён зрабіў крок да нас, стаў, абапершыся на кіёк, пракулдыкаў нейкую дарэчную выпадку бессэнсоўнасць, а тады ў сваю чаргу быў прадстаўлены мне як «выдатны тутэйшы паэт». Прозвішча ягонае, вядома, таксама было названае, і я добра яго памятаю, але паўтараць на паперы не буду. Дый вам яно нічога б не сказала, бо слава гэтага слугі Музаў не сягала далей суседніх фальваркаў — і цалкам заслужана. Мы абмяняліся жменяю агульных фраз, і я з нейкай нагоды адгукнуўся прыязна аб вершах Ігнацыя Красіцкага. Гэта зрабіла самае прыемнае ўражанне на старога, і я быў запрошаны ў той жа дзень з ім павячэраць. Я звыкла пагадзіўся і развітаўся да часу з панам паэтам. Чыноўнік, які нас пазнаёміў, стаяў агаломшаны. Калі я спытаў пра прычыну здзіўлення, аказалася, што пан паэт не клікаў нікога ў госці з няўпомных часоў. Хаця трымаўся ён з усімі прыязна, але ў дом ягоны даўно не заходзіў ніхто, апроч яго ды ягонай пакаёўкі, што была разам і кухаркаю.



Увечары, ва ўмоўлены час, пан паэт сустрэў мяне на ганку. Пакой, у якім прыслужніца накрыла нам вячэру, быў поўны ахайна расстаўленай і раскладзенай, але рэдка праціранай ад пылу старызны. Паўсюль, куды падала святло ад свечак, былі нейкія закаханыя пастушкі, засушаныя кветкі, чыесьці сілуэты ў рамках — утульны, кранальны хаос. З бачных мне трох паліцаў буфета ўсяго адна была занятая посудам — на іншых калі і былі нейкія талеркі ці келіхі, то цалкам схаваныя за статуэткамі ды іншым хламам.

Пан паэт гаварыў не змаўкаючы — расказваў мясцовыя анекдоты, разважаў пра літаратуру, але найбольш чытаў свае і чужыя вершы. Я слухаў не без прыемнасці. Расказчык ён быў добры, хоць і з нейкаю вар'ятаватасцю ў манеры, паэзію дэкламаваў няблага, і нават уласныя ягоныя вершы, хоць і не мелі ніякай каштоўнасці, усё ж былі не настолькі жахлівымі, каб сапсаваць мне настрой. Атрымаўшы магчымасць уставіць колькі словаў у размову, я пацікавіўся, ці даўно ён карыстаецца ў мястэчку такою павагаю. Стары, задаволена ўсміхаючыся, адказаў, што суседзі лічылі яго за добрага паэта яшчэ пры канцы мінулага стагоддзя, а з той пары сумняваліся ў ім усяго аднойчы. Пра той адзіны выпадак, працягваў пан паэт, усе памятаюць, так што яму ні разу не выпадала аб ім расказаць. Тут ён змоўк, чакаючы просьбы апавесці, і я, зразумела, папрасіў.

— У жніўні 1812 года, — пачаў пан паэт, — калі французскі імператар быў ужо далёка на ўсход адсюль, праз гэтыя месцы вяртаўся з Варшавы ў войска нейкі Ракіцкі — малады ўлан. Дарогаю ён трапіў у моцную залеву, да нашага мястэчка дабраўся зусім хворы і змушаны быў затрымацца ў аднаго з тутэйшых гасцінных гаспадароў. У першы ж вечар ён згадаў, што піша вершы, і штосьці са свайго прачытаў — цьмяныя рыфмаваныя трызненні па нейкай новай модзе. Але трэба згадаць, мой добры пане, што ён загадкава маўчаў аб тым, з якім даручэннем ездзіў у Варшаву, а да таго ж меў хвацкія вусы. Не дзіва, што паненкі і маладзіцы ўраз вызналі яго за найлепшага вядомага ім паэта і адстойвалі гэтае меркаванне так палка, што астатнія ленаваліся спрачацца. Праз які дзень, калі ўсе паверылі, што да нас завітаў новы Гарацый, гаспадара, у чыім доме жыў Ракіцкі, пераканалі зладзіць у сябе чытанне вершаў. У тым годзе ледзь не штодня хтонебудзь збіраў гасцей — не гатуючы амаль ніякага пачастунку, бо ежу аншчаджалі, а проста каб разагнаць размовамі трывогі. Вось на тым прыёме і дайшло паміж намі да спрэчкі. Калі Ракіцкі прачытаў чарговую сваю песеньку, я сказаў яму ўсё, як ёсць. Сказаў, што такога туману можа напускаць хіба той, што сам не ведае, аб чым піша, а калі б яму давялося апісаць нешта не жартам важнае, то ўраз бы стала бачна, чаго вартая гэтая балбатня побач з прастатою даўнейшых вершаў. Той ёлуп адказаў, што пяцідзесяцігадовыя не могуць зразумець, як вырасла за апошні час паэзія, і яго ўсе падтрымалі. А найбольш мяне абурыў гаспадар дома, які, адклікаўшы мяне ўбок, прасіў не зайздросціць чужому таленту і даць дарогу маладым.

Наступныя два дні ў мястэчку толькі й размоваў было пра перамогу іх новага ўлюбёнца над старым, а на трэці ранак гаварылі ўжо пра іншае, бо здарылася бяда. У часе той вайны, як вы, пэўна, чулі, тут паўсюль лютавалі злодзеі. Іх не было каму ўтаймаваць, і раз-пораз да нас даносілася пагалоска аб забойствах і рабунках у суседніх вёсках. А тут нягода завітала да нас. На ўскрайку мястэчка жыла старая пані; сваякоў у яе не засталося, але гасцей яна збірала нярэдка, а такія ж старыя суседкі наведвалі яе шторанку. У той дзень, прыйшоўшы да сяброўкі, яны ўбачылі, што акно ў доме выламанае з рамаю. На грукат у дзверы ніхто не адказваў. На лямант спужаных старых збегліся людзі, выбілі дзверы ды знайшлі гаспадыню мёртваю ў ложку з нажом у грудзях. У доме ўсё было перакулена, але што скралі — ніхто дакладна не мог сказаць, бо ніхто не ведаў, што тая жанчына мела. Адзінае, што было пэўна — з гасцінай забралі парцалянавага сабачку, якога старая дужа любіла, бо гэта быў падарунак яе нябожчыкасына. Папярэднюю ночку ніхто нічога не чуў — быў дождж і шалёны вецер — і шукаць забойцаў не выпадала.

На вуліцах, вядома, цяпер гаварылі толькі аб гэтым. А бліжэй да вечара нехта ўзгадаў пра нашую з Ракіцкім спрэчку і заўважыў, што вось, уласна, і важнае здарэнне, і цяпер паэты могуць памерацца сіламі. Прыдумка імгненна разнеслася па мястэчку і вельмі ўсіх захапіла. Бо паэтычнае спаборніцтва — забава нячастая, а вы ж ведаеце, добры пане, як у правінцыі сумна, — тут пан паэт павярнуў да мяне свой індычыны твар і мацней, чым звычайна, вырачыў вочы, чакаючы згоды. Я, кажучы праўду, быў непрыемна здзіўлены тым, як местачкоўцы зрабілі з забойства свецкую забаўку, не дачакаўшыся нават пахавання, таму прабурчаў нешта няўцямнае. Пан паэт, не зважаючы на выраз майго твару, працягваў:

— На наступны дзень гаспадар дома, дзе спыніўся ўлан, зноў сабраў госці. Нічога не абвяшчалася, але ўсе разумелі, што абодва паэты — то бок я і Ракіцкі — будуць чытаць вершы пра нядаўнюю трагедыю. Малады вісус ізноў склаў няўцямніцу, якая з роўным поспехам магла апісваць і забойства, і няшчаснае каханне. А можа, і не склаў, а выцягнуў з даўнейшых запасаў, бо калі верш ні пра што, няма розніцы, калі ён напісаны. Я ж зрыфмаваў, радок да радка, усё, што ўбачылі тым жахлівым ранкам у разрабаваным доме, — тут пан паэт, вядома, прадэкламаваў свой верш цалкам, але я ад яго памятаю толькі апошнюю страфу:

Бяжы, мястэчка, на падворак Баляславы!
З нажом у сэрцы нерухома спіць бядачка.
А ў доме ейным перакуленыя лавы,
І знік з паліцы парцалянавы сабачка.

На мяне гэтыя радкі, як вы разумееце, зрабілі не болей уражання, чым на вас, але ж цалкам дапускаю, што Ракіцкі пісаў яшчэ горш — чаму б не? У кожным разе, я знайшоў для пана паэта нейкія словы ўхвалы, і той, задаволены, з асалодаю перайшоў да фінала:

— Само сабою, — прагаварыў ён, вылучаючы кожнае слова, — ні ў кога не засталося сумневаў, хто перамог. Ракіцкі спрабаваў яшчэ спрачацца, але яго не слухалі. Наступным ранкам ён аб'явіў, што цалкам акрыяў, і з'ехаў далей на ўсход, амаль ні з кім не развітаўшыся. А мяне з той пары ў мястэчку завуць проста «панам паэтам».

Баючыся, што пан паэт зноў запатрабуе ацэнкі свайму вершу, а мне, адпаведна, зноў давядзецца крывадушнічаць, я вырашыў адвесці размову ўбок:

— Цікава ўсё ж, — сказаў я, — нашто забойца забраў парцалянавага сабачку?

Гаспадар дома, абуджаны ад летуценняў пра дзень сваёй славы, паглядзеў на мяне, разгубленаа адвесіўшы губу:

— Якога сабачку? А, таго?.. — тут ён махнуў рукою ў бок буфета, і я, пашнарыўшы вачамі ў натоўпе статуэтак на цёмнай паліцы, разгледзеў. — Цуцыка гэтага? Дык без яго ж не зрыфмавалася б. Бядачка-сабачка, ведаеце, — стары дробна загігікаў. — Між іншым, добры пане, тут немагчыма не прыгадаць адну гісторыю, што здарылася, кажуць, са слаўным вершапісцам Нарушэвічам...

Ён шмат яшчэ расказваў, не памятаю што, а я, напэўна, адказваў нешта ветлівае. Памятаю затое, што быў невыказна шчаслівы, калі нарэшце, адкланяўшыся, апынуўся на ганку і глыбну сырога сакавіцкага павета.

Хутка пасля вяртання ў Вільню я чакаў у таварыстве двух такіх, як сам, маладых чыноўнікаў пад дзвярыма важнага кабінета. Размова зайшла аб рэлігіі. Мае калегі спаборнічалі ў найноўшых модных думках, а я збольшага маўчаў, бо добры настрой і прага да гутаркі яшчэ не паспелі да мяне вярнуцца. Умяшаўся ў размову я ўсяго раз. Калі адзін з калег рытарычна спытаў, узвысіўшы голас, ці можна паверыць, што добры Бог дапускае пекла, я з нечаканаю для сябе самога рэзкасцю сказаў, што ў існаванні пекла сумнявацца не жадаю. Гэтыя словы і пачуў, ідучы паўз нас па калідоры, канонік Жылінскі. У той жа дзень, як расказалі мне пасля, ён паказаў на мяне здалёк майму начальніку, з якім быў у прыяцельстве.

— Гэта ваш падначалены? — спытаў тады Жылінскі. — Прыглядзіцеся да яго. У ім ёсць пэўная цвярозасць. Тое, ведаеце, здаровае духу, якое ў папярэдніх пакаленнях было паўсюдным, а ў цяперашняй моладзі амаль не сустракаецца.

**Алена Хрышчановіч**
пісьменніца, фіналістка літаратурнага конкурсу для маладых пісьменнікаў «Экслібрыс» (2012). Жыве ў Мінску.

## ІМПРЭЗЫ

### Восеньскі модны маркет

**14 і 15 верасня ў Мінску** пройдзе Восеньскі модны маркет. На пляцоўцы Нацыянальнай школы прыгажосці зьбяруцца дызайнеры вопраткі і аксесуараў, гатовыя дапамагчы вам зрабіць гэтую восень сапраўды моднай і яркай.

### Квітней, мой родны Мінск

**14 верасня ў Цэнтральным батанічным садзе** пройдзе сьвята «Квітней, мой родны Мінск!».
Падчас сьвята Сад прадставіць калекцыі восеньскіх кветак — геаргін і хрызантэм. Упершыню ў батанічным садзе ўсе ахвотныя могуць наведаць і прыняць удзел у фотасэсіі…

## КАНЦЭРТЫ

### У нескладовае

**15 верасня а 20-й у Doodah King (Берсана, 14)** — Канцэрт праекта «Раман Арлоў і У нескладовае».

### HYPOCRISY

**18 верасня а 19-й у RE : PUBLIC (Прытыцкага, 62)** — канцэрт гурта HYPOCRISY (Швецыя), пры ўдзеле Hatesphere (Данія).

### Ethno fantasia

**20 верасня а 19-й у Малой залі імя Р.Шырмы (пр.Незалежнасці, 50)** — прэзэнтацыя альбома Ірэны Катвіцкай Ethno fantasia. Ірэна Катвіцкая — этнічная сьпявачка, кампазітар, піяніст, выкладчык, этнамузыколаг, аўтар і лідар ethno-jazz праекта Akana-NHS, аранжыроўшчык і вакалістка інтэр-праекта Kazalpin.

### AMORPHIS

**20 верасня а 19-й у RE:PUBLIC (Прытыцкага, 62)** — выступае гурт AMORPHIS (Хельсінкі, Фінляндыя).

## ВЫСТАВЫ

### З Вілейкі з любоўю

**З 14 верасня па 19 кастрычніка ў мастацкай галерэі твораў Л.Шчамялёва (пр.Ракасоўскага, 49)** працуе выстава твораў беларускіх народных майстроў з фондаў Вілейскага краязнаўчага музея. Упершыню ў Мінску будуць паказаныя распісныя дываны, малюнкі на шкле, распісныя макаткі і іншыя атрыбуты побыту Вілейшчыны першай паловы XX стагоддзя.

### Выстава беларускага дызайну ў Варшаве

**Да 15 верасня ў галерэі Soho Factory (Варшава, вул. Мінская 25, будынак 63)** працуе выстава беларускага дызайну. Сучасны беларускі прадметны дызайн будзе прадстаўлены ў Варшаве аб'ектамі Максіма Шняка, Ігара Салаўёва, выпускніка БДАМ 2013 года Дзмітрыя Салка ды іншых дызайнераў.

### Сьвятло майго горада

**Да 29 верасня ў Мінскай гарадской ратушы** працуе выстава Алеся Шатэрніка «Сьвятло майго горада». На выставе прадстаўлены работы з фондаў Нацыянальнага мастацкага музея, Беларускага саюза мастакоў, з калекцыі аўтара.

### Навагрудскі край вачыма Канута Русецкага

**Да 30 верасня ў партрэтнай зале Мірскага замка** адбываецца выстава мастацкіх твораў Канута Русецкага, падрыхтаваная сумесна з Бібліятэкай Літоўскай акадэміі навук імя Урублеўскіх. На выставе 27 эскізаў і малюнкаў славутага мастака XIX стагоддзя.



### Фестываль феерверкаў

**21 верасня ў Ваўкавыску** адбудзецца II Міжнародны фестываль феерверкаў з удзелам найлепшых піратэхнічных каманд Украіны, Расіі, Літвы і Беларусі. Месца запуску феерверкаў — гарадзішча Шведская Гара, пачатак спаборніцтваў па шатакан каратэ-до і канцэртнай праграмы — а 15-й, выступаў піратэхнічных камандаў — а 21.30.



## ХАКЕЙ

### «Дынама» — «Леў»

**Мінскае «Дынама»** пачынае хатнія матчы ў Кантынентальнай хакейнай лізе. 12 верасня на «Мінск-Арэне» «зубры» прымуць чэшскі «Леў». Пачатак а 19.




13 верасня а 18-й у клубе «Цэнтр» (пл. Кастрычніцкая, 1; Палац Рэспублікі) пройдзе штогадовы фестываль беларускай музыкі «Рок па вакацыях». Выступяць музыкі, якія гралі яшчэ на першых фестывалях: N.R.M., «Крама», Neuro Dubel, «Палац», Кася Камоцкая. Да іх далучацца гурты, якія атрымалі папулярнасць у апошнія гады, — Re1ikt, Naka, «Зьмяя». Яшчэ адным сюрпрызам стане выступ расійскага рок-музыкі Вадзіма Курылёва, удзельніка гуртоў «Электрические партизаны», «Разные люди», ДДТ.

## ТЭАТРЫ

### 11 верасня

**Купалаўскі** — «Пінская шляхта»
**Оперы і балета** — «Яўген Анегін»
**Беларускай драматургіі** — «Ціхі шэпт сыходзячых крокаў»

### 12 верасня

**Купалаўскі** — «Офіс»
**Оперы і балета** — «Анюта»
**Беларускай драматургіі** — «Ціхі шэпт сыходзячых крокаў»

### 13 верасня

**Купалаўскі** — «Вячэра з прыдуркам»
**Беларускай драматургіі** — «Ігвіта, альбо Як гэта рабілі ў Францыі»

### 14 верасня

**Купалаўскі** — «Людзі на балоце»

### 15 верасня

**Купалаўскі** — «Людзі на балоце»
**Оперы і балета** — «Тоска»

### 16 верасня

**Оперы і балета** — «Жызэль, альбо Вілісы»

### 17 верасня

**Беларускай драматургіі** — «Тры Жызэлі»
**Оперы і балета** — «Травіята»

### 18 верасня

**Юнага гледача** — «Тарас на Парнасе»
**Беларускай драматургіі** — «Сталіца Эраўнд»
**Оперы і балета** — «Трышчан і Ізота. Шапеніяна. Балеро»

### 19 верасня

**Купалаўскі** — «Местачковае кабарэ»
**Оперы і балета** — «Мадам Батэрфляй»
**Беларускай драматургіі** — «Бегчы з Эльсінора, альбо Гамлет навыварат»
**Юнага гледача** — «Пан міністар»

### 20 верасня

**Купалаўскі** — «Местачковае кабарэ»
**Оперы і балета** — «Лебядзінае возера»
**Беларускай драматургіі** — «Купала. Кругі раю»
**Юнага гледача** — «Майго юнацтва крылы»

### 21 верасня

**Юнага гледача** — «Царэўна Жабка»
**Юнага гледача** — «Маленькі лорд Фаўнтлярой»
**Купалаўскі** — «Местачковае кабарэ»
**Беларускай драматургіі** — «Нязваны госць»

### 22 верасня

**Юнага гледача** — «Кот у ботах»
**Оперы і балета** — «Вíні-Пух і ўсе, усе, усе…»
**Купалаўскі** — «Вечар»

## КІНО

### Шматслойнае прыкрыцьцё

Два ствалы
Баявік, крымінальная драма, камедыя
**Рэжысэр:** Балтазар Кармакур.
**У ролях:** Дэнзел Вашынгтан, Марк Уоберг, Пола Пэтан, Біл Рэкстан, Фрэд Уорд, Эдвард Джэймс Олмас.
ЗША, 109 хв.

Два бандыты, што працуюць на мексіканскі наркакартэль, плануюць абрабаваць банк, каб напаскудзіць галоўнаму мафіёзі. У працэсе высьвятляецца, што адзін з іх, Бобі, насамрэч з'яўляецца агентам Упраўлення па барацьбе з наркотыкамі, а другі, Стыг, — агент выведкі ВМС (Вайскова-марскіх сіл). На гэтым сюрпрызы не заканчваюцца. Аказваецца, грошай у тым банку нашмат больш, чым планавалі рабаўнікі — 143 мільёны даляраў, замест трох. І належаць яны, зусім не наркабарону...
Інтрыга аказваецца нашмат шматслойнейшай, чым здаецца напачатку. Дзеяньне адбываецца на мяжы Мексікі і ЗША, прысутнічае нелегальны пераход праз мяжу. У сутыкненні сыходзяцца ці не ўсе вядомыя выведвачыя і вайсковыя арганізацыі Амерыкі. Але абодва героі больш не хочуць працаваць ні на адну з іх, бо тыя здрадзілі сваім агентам.
Стужка спрабуе сумясціць баявік, драму і камедыю. І калі стралянiна з жартамі сумясціліся ўдала, то спробы паказаць глыбінныя трагедыі душы герояў выглядаюць трохі недарэчнымі.

**Настасся Уласава**



# Краіна пад срэбнымі аблокамі



**Астранамічны феномен** найлепш бачны з беларускіх шырот.

У беларускага начнога неба таксама ёсць свая адметнасць. Гэта серабрыстыя аблокі – надзвычай прыгожая нябесная з'ява, якая была адкрытая беларусам і якая лепш за ўсё бачная з беларускіх шырот.

Вельмі часта даводзіцца чуць: а чым беларускае зорнае неба адрозніваецца ад неба іншых краін? Ці ёсць на ім штосьці такое, што не бачаць ў іншых кропках Зямлі? Так, далёка не ўсе прыгажосці ночы даступныя ў Беларусі. Хоць маляўнічыя палярныя ззянні часам і з'яўляюцца на нашым небасхіле, усё ж іх хараство не параўнаць з нарвежскімі нябеснымі феерверкамі. Няхай мы і можам любавацца Млечным Шляхам, але наўрад ці яго выгляд можа параўнацца са свячэннем цэнтра нашай Галактыкі ў паўднёвых шыротах. Але, бадай, існуе адна нябесная з'ява, для якой беларускія шыроты з'яўляюцца найлепшым месцам для назірання. Гэта серабрыстыя аблокі.

Цёплай чэрвеньскай ноччу выйдзіце на вуліцу. Блізу апоўначы навокал ужо цёмна, але ноч так і не наступае – Сонца не апускаецца глыбока за гарызонт і паўночная частка небасхілу працягвае слаба свяціцца. Усе зямныя аблокі даўно ўжо пагрузіліся ў цень і выглядаюць цёмнымі ці нават чорнымі. Але раптам у паўночнай частцы неба паступова з'яўляецца пярэсты ўзор, хвалі і завіткі, якія быццам свецяцца самі. Гэта і ёсць серабрыстыя аблокі, якія плывуць на вышыні 80 кіламетраў над зямной паверхняй. Падумаць толькі – гэта практычна адкрыты космас! Калі б вы апынуліся на такой вышыні, то неба над галавой было б абсалютна чорным, а пад нагамі ляжаў бы блакітны акіян зямной атмасферы. Насамрэч, серабрыстыя аблокі не свецяцца, а проста адбіваюць сонечнае святло: калі вы іх бачыце, то яны цяпер знаходзяцца дзе-небудзь высока над Скандынавіяй і проста асвятляюцца прамымі сонечнымі промнямі.

Загадкавыя аблокі былі адкрытыя ў 1885 годзе Вітольдам Цэраскім (дарэчы, ён родам са Слуцка). Але, нягледзячы на тое, што з'ява даследуецца ўжо больш за сотню год, вучоныя дагэтуль не маюць адзінага меркавання адносна іх прыроды. Вядома толькі, што яны складаюцца з крышталікаў вадзянога лёду, з'яўляюцца толькі пару разоў на год улетку і толькі ў высокіх шыротах. Выклікае ў навукоўцаў пытанні і той факт, што, паводле сучасных уяўленняў, вадзяны пар з зямной паверхні папросту не можа падняцца так высока. У сувязі з гэтым многімі прапаноўваюцца ідэі, што серабрыстыя аблокі ўтвараюцца з матэрыялу разбураных ледзяных метэарытаў. Іншыя ж вучоныя мяркуюць, што летам вільгаць усё ж такі можа падымацца на такую вышыню дзякуючы асабліва магутным узыходзячым патокам паветра. Трэція кажуць, што вільгаць на такой вышыні і так ёсць, але яе кандэнсацыю ў аблокі выклікаюць метэорныя часцінкі ці зямны пыл: вядома, што пасля выбуху вулкана Кракатау серабрыстыя аблокі некаторы час былі асабліва яркімі і частымі.

Вывучаць гэтую з'яву досыць цяжка, бо стратасферныя зонды не ў стане падняцца так высока, а для спадарожнікаў Зямлі гэтая вышыня занадта нізкая. Таму нават аматарскія назіранні з розных кропак зямнога шара могуць мець навуковую вартасць, а папулярныя timelapse-відэаролікі (дзе час паскараецца ў дзясяткі-сотні разоў) з'яўляюцца адзіным спосабам даследаваць рух паветра на такіх вышынях. Таму калі надыдзе лета, сачыце пастаянна за паўночнай часткай начнога неба і неўзабаве і вы ўбачыце прывіднае ззянне загадкавага «срэбра» – адной з самых таямнічых і самых беларускіх нябесных з'яў.

**Віктар Малышчыц, фота аўтара.**

## Сцісла

### У Швейцарыі паштовыя маркі заменяць на смс-кі

Замест таго, каб купляць марку і наклейваць на канверт, трэба толькі адправіць смс-паведамленне са словам «марка» на кароткі нумар. Кошт паведамлення складае каля 11 тысяч рублёў у эквіваленце. У паведамленні ў адказ прыйдзе код, які трэба напісаць у правым верхнім куце канверта. Пры адпраўцы код чытаецца машынай і служыць доказам аплаты.

### Алімпіяда-2020 пройдзе ў Токіа

Сталіца Японіі выбрана месцам 32-х летніх Алімпійскіх гульняў-2020. З Токіа супернічалі Стамбул і Мадрыд. Сталіца Іспаніі выбыла ў другім туры. Алімпійскія гульні ў Токіа праводзіліся ў 1964. У 2016 спаборніцтвы пройдуць у Рыа-дэ-Жанейра.

**ЯМ**



У Мінску прайшоў фінал конкурса Miss Supranational — 2013. Арганізатары называюць яго трэцім па прэстыжнасці ў свеце. Перамагла філіпінка Муця Датул (на фота). Беларусь была прадстаўленая 17-гадовай студэнткай з Гомеля Веранікай Чачынай. Яе прызналі самай прыгожай еўрапейкай.

Скандал выклікала апублікаванае ў інтэрнэце фота беларускай удзельніцы, на якім пад звычайным станікам віднеецца сіліконавы.

АЛЯКСАНДР КОРСАКАЎ



### Анекдоты і жарты

* * *

Амерыканская мара: зарабіць мільён.
Расійская мара: мільён патраціць.
А беларус проста ў краму сходзіць ..

* * *

Лічы перад сном інтэгралы. Авечкі — для слабакоў.

* * *

Гатэль спадабаўся, нумар быў цудоўны. А ручнікі былі такія пухнатыя, што ледзь змясціліся ў чамадан.

* * *

У нас вельмі займальны ўрад — назаймаў мільярды даляраў і працягвае займаць.

* * *

Беларускія выбары адрозніваюцца ад латарэі тым, што ў латарэі ёсць хаця б тэарэтычны шанец выйграць.

* * *

Што такое мыты?
Гэта штраф за пражыванне ў Беларусі.

* * *

Прадавец кавуноў лёгкім стукам па галаве можа вызначыць — гатовы яго сын да экзамену ці не.

* * *

Статус «Укантакце»: «Ды не пасадзяць мяне!». Абноўлены 860 дзён таму.

* * *

Кожны раз, калі паміж Беларуссю і Расіяй узнікаюць праблемы ў эканамічным плане, складваецца ўражанне, што Мясніковіч тэлефануе Мядзведзеву, але размаўляе з аўтаадказчыкам.

### «НН» сто гадоў з вамі

**Па загаду Гасудара Імператара** асобы, каторыя, скончыўшы вучыцельскія школы, павінны служыць вучыцелямі, перш павінны адслужыць адзін год на дзействіцельнай ваеннай службе. А скончыўшы ваенную службу, павінны праслужыць яшчэ не менш 5 год вучыцелямі.

**«НН». №34. 1913.**

**Пад пагрозай закрыцця** апынуўся праваабарончы цэнтр «Вясна». Кіраўнік арганізацыі Алесь Бяляцкі лічыць, што іх «замовілі». У дакуменце за подпісам міністра юстыцыі Галавана гаворыцца, што праваабаронцы баранілі ў судах простых грамадзян, а не толькі сваіх сяброў.

**«НН». №34. 2003.**

Стваральнікі гульні «World of tanks» зладзілі рэальны танкавы бой на лініі Сталіна. Туды з'ехаліся каля 10 тысяч чалавек, якія назіралі за рэканструкцыяй танкавай бітвы часоў Другой сусветнай вайны.






«Стрыптыз па-беларуску!» — падпісаная жартаўлівая карцінка з сацыяльных сетак.




А вось гэта не жарт. Такі транспарант — з літарай «и» рускай — можна было пабачыць у Быхаве, дзе 1 верасня прайшоў Дзень беларускага пісьменства.

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

| | |
|---|---|
| сакратарка рэдакцыі | Наста Бакшанская |
| шэф-рэдактар | Андрэй Дынько |
| намеснікі галоўнага рэдактара | Ягор Марціновіч<br>Зміцер Панкавец |
| галоўны рэдактар | Андрэй Генадзевіч Скурко |
| заснавальнік | Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы» |
| выдавец | Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы» |

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8007. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 10.09.2013.
Замова №3868.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 1819-1614
9 771819 161008 13034